№ 7 (940) 17 лютага 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». **Старонка 2.**

## Хто першы сеў ды іншыя вынікі сустрэчы Папы і патрыярха



Абарончы саюз Францішка і Кірыла — тонкасці пратакола і наступствы для Беларусі. Піша Анатоль Сідарэвіч. **Старонка 12.**

# Еўрасаюз зноў працягнуў руку Лукашэнку

Краіны ЕС дамовіліся **зняць санкцыі** з чыноўнікаў-лукашэнкаўцаў.

Гэтае рашэнне было прынятае 15 лютага на пасяджэнні ў Брусэлі міністраў замежных спраў краін ЕС. Краіны ЕС вырашылі зняць санкцыі са стратэгічных меркаванняў, нягледзячы на праблемы з правамі чалавека ў Беларусі.

«Добрая навіна ў тым, што мы ў Еўропе, у ЕС, дамовіліся аб новым узаемадзеянні з Беларуссю ў будучыні. Там адбыліся змены. Учора беларускі кіраўнік МЗС у Мюнхене зноў пацвердзіў мне, што і там хацелі б іншай палітыкі з ЕС», — сказаў міністр замежных справаў ФРГ Франк-Вальтэр Штайнмаер, дадаўшы, што «пасля вызвалення палітвязняў, якое мы бачылі і назіралі і на якім мы настойвалі, цяпер, у сувязі з гэтым, можа адбыцца зняцце санкцый».

Адначасова Рада ЕС застаецца крытычнай адносна сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Рада асуджае смяротныя пакаранні і «заклікае беларускія ўлады ўвесці мараторый у якасці першага кроку да яго адмены». Варта нагадаць, што Беларусь застаецца адзінай краінай Еўропы, дзе захоўваецца смяротнае пакаранне.

**Працяг на старонцы 2.**




**Гандляры патрабуюць адмены ўказа №222 аб абавязковай сертыфікацыі тавараў.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Прадпрымальнікі выйшлі на плошчу

800 чалавек сабраліся 15 лютага ў цэнтры Мінска. **Старонка 3.**

## Старшыню Белтэлерадыёкампаніі кантузіла на інфармацыйнай вайне?

Генадзь Давыдзька зноў загаварыўся.

У чарговым эфіры «Клуба рэдактараў» Генадзь Давыдзька заявіў, што супраць дзяржавы вядзецца... інфармацыйная вайна: «Нядаўна ажыццяўлялася атака на міліцыю, пасля — на членаў урада, а цяпер — на журналістаў, перайшлі на асобы. Гэта не крытыка, а менавіта атака».

Нагодай для такіх нападак на «Нашу Ніву» стала публікацыя на нашым сайце таго факта, што на старонцы ў сацсетцы тэлевядучага БТ Сяргея Гусачэнкі сталі з'яўляцца надпісы «Ёсць такая прафесія — ілгаць штовечар». За некалькі дзён да таго той прадстаўляў у эфіры сюжэт, дзе асуджаных па «справе графіцістаў» выставілі наркаманамі, што працуюць за валюту.

Абурэнне Давыдзькі не падзяліў кіраўнік «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч. Ён заявіў, што не варта затыкаць рты і лічыць частку прэсы сумленнай, а частку — несумленнай. А пасля заклікаў рэдактараў недзяржаўных СМІ да ўдзелу ў «Клубе рэдактараў». На што Давыдзька заявіў, што «запрашалі, яны адмаўляюцца».

Што ж, раз так, прыйшла «Нашай Ніве» пара падняць архівы сваёй перапіскі са сп.Давыдзькам.



Тут трэба зрабіць экскурс у гісторыю.

Давыдзька ўзначаліў Белтэлерадыёкампанію ў канцы 2010 года. Неўзабаве ён запусціў «Клуб рэдактараў» — штотыднёвую тэлепраграму.

**Працяг на старонцы 2.**

## Адміністрацыя прэзідэнта адказала

на пытанні «Нашай Нівы», растлумачыла асобныя аспекты Дырэктывы №3. **Старонка 4.**

## Кірыл Руды

адстойвае лібералізм. **Старонка 5.**

## Пілігрымка Еўфрасінні: вера і палітыка

Гісторыя Беларусі. Частка XXXVI. **Старонка 14.**

## Задыяк

Апавяданне Алеся Кіркевіча. **Старонка 15.**

## Рэдактары недзяржаўных СМІ звярнуліся ў Белтэлерадыёкампанію

Ліст з просьбай даць магчымасць выказацца ў «Клубе рэдактараў» падпісалі галоўны рэдактар TUT.BY Марына Золатава, шэф-рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько, шэф-рэдактар «Народнай Волі» Святлана Калінкіна, галоўны рэдактар інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» Аляксандр Старыкевіч і старшыня ГА «БАЖ» Андрэй Бастунец.

У лісце прадстаўнікі СМІ звяртаюць увагу на тое, што ў эфіры ад 7 лютага журналістаў недзяржаўных выданняў неаднаразова згадвалі ў адмоўным святле з выкарыстаннем механізмаў агрэсіўнай прапаганды найгоршага кшталту: падзяленне на «сваіх» і «чужых», навешванне ярлыкоў, агульнае прыніжэнне «тых, хто не падтрымлівае дзяржаўную пазіцыю» і г.д.

Разам з тым у перадачы галоўны рэдактар газеты «СБ.Беларусь Сегодня» Павел Якубовіч заклікаў для абмеркавання пытанняў свабоды слова з удзелам усіх зацікаўленых у гэтым бакоў: прадстаўнікоў БАЖ і БСЖ, журналістаў дзяржаўных і недзяржаўных медыя, дзяржаўных службоўцаў.

«Мы гатовыя да дыялогу, да публічнага дыялогу, але ці гатовыя да гэтага Вы? Калі так, то мы гатовыя ўзяць удзел у «Клубе рэдактараў», каб выказаць свой пункт гледжання як па канкрэтных пытаннях, якія абмяркоўваліся цягам апошніх двух выпускаў, так і наконт ролі і месца СМІ ў сучасным грамадстве», — гаворыцца ў звароце.

Зварот на адрас Генадзя Давыдзькі накіраваны ў Белтэлерадыёкампанію заказным лістом.

# Старшыню Белтэлерадыёкампаніі кантузіла на інфармацыйнай вайне?

Працяг са старонкі 1.

У ёй галоўныя рэдактары беларускіх СМІ абмяркоўваюць падзеі ў краіне і свеце.

«Нас часта папракалі, што ў нас толькі адно меркаванне. Калі ласка, прыходзьце ўсе, гаварыце. Любыя заяўкі ад любога выдання, любога разумнага чалавека будуць задаволены, і ён будзе запрошаны ў «Клуб рэдактараў». Тым больш калі мы выйдзем у жывы эфір. Мы нічога не баімся, не баімся чужога меркавання», — заявіў Давыдзька ў інтэрв'ю «Камсамольскай праўдзе» ў сакавіку 2011 года.

Імгненна, праз некалькі дзён, «НН» даслала сваю «заяўку». «Калі праграма будзе ісці ў жывым эфіры, гэта можа стаць асабліва значным унёскам у здабыццё свабоды слова беларускім грамадствам. Чытачы выказалі пажаданне, каб і рэдактары «Нашай Нівы» выступілі ў «Клубе рэдактараў». Будзем удзячныя за запрашэнне», — напісалі мы Давыдзьку. (Копію ліста апублікуем на сайце.)

Жывога эфіру гледачы так і не дачакаліся. Праграмы чысціцца, каб нічога «лішняга» не трапіла ў эфір. А «Нашу Ніву» ні разу не паклікалі на БТ.

Тым не менш, мы абсалютна аб'ектыўна пераказвалі змест перадач на сайце газеты, каб чытачы маглі знаёміцца з пазіцыяй сп.Давыдзькі.

Падчас прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі ў студзені 2015 года «Наша Ніва» задала пытанне пра стварэнне беларускамоўнага дзіцячага тэлеканала. Кіраўнік краіны паставіў некалькі ўмоваў і падсумаваў: «Калі вы здольныя стварыць канал — рабіце. Толькі каб людзі глядзелі вас».

Неўзабаве пасля таго «Наша Ніва» звярнулася да Давыдзькі з

Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь
220807 г. Мінск, вул.Макаёнка, 9, тэл. 267-75-95, факс + (375 17) 267-81-82 E-mail: tvr@tvr.by

Национальная государственная телерадиокомпания Республики Беларусь
220807 г. Минск,ул.Макаенка, 9, тел. 267-75-95, факс + (375 17) 267-81-82 E-mail: tvr@tvr.by

02.03.2015 № 01/12
На № ________ ад ________

Шэф-рэдактару газеты «Наша Ніва»
Дынько А.В.

У сувязі з часовай непрацаздольнасцю Старшыні Белтэлерадзёкампаніі, магчымасць сустрэчы з ім у бліжэйшы час атсутнічае.

Прапануем накіраваць пытанні на афіцыйны адрас Белтэлерадзёкампаніі.

Памочнік Старшыні В.М.Ткач

чарговай прапановай.

Памочнік Давыдзькі, В.Ткач, адказаў лаканічна. Прыводзім даслоўна, цалкам, правапіс захаваны: «У сувязі з часовай непрацаздольнасцю старшыні Белтэлерадзёкампаніі, магчымасць сустрэчы з ім у бліжэйшы час атсутнічае».

Менавіта так: «аТсутнічае», «БелтэлерадЗёкампанія» (апошняе — двойчы).

Мы не паверылі сваім вачам. Чатыры памылкі ў двух сказах. У кіраўніцтве Белтэлерадыёкампаніі не ўмеюць без памылак напісаць слова «радыё».

Пасмяяліся і паклалі той адказ у архіў. Не хацелася дыскрэдытаваць дзяржаўныя структуры публікацыяй.

Мы не ведаем прычыны «часовай непрацаздольнасці» былога акцёра Купалаўскага тэатра, які, задраўшы штаны, папёр на ідэалагічную перадавую.

Сустрэцца з карэспандэнтам «Нашай Нівы» «часова непрацаздольны» так і не змог. І ў «Клубе рэдактараў» ні Андрэя Дынько, ні Святланы Калінкінай, ні Іосіфа Сярэдзіча так і не пабачылі.

Пры гэтым Давыдзька працягвае паўтараць у эфіры «Беларусь-1», што запрашае недзяржаўныя СМІ да дыялогу. І ён жа зрабіў усё, каб пасварыцца з недзяржаўнымі СМІ. Без дай прычыны ён абліваў брудам па чарзе такія папулярныя выданні, як «Народная Воля», «Тут.бай», «Наша Ніва»...

Столькі карыснага, столькі канструктыўнага зрабілі недзяржаўныя СМІ за апошнія гады для павышэння эканамічнай граматнасці, грамадзянскай свядомасці, развіцця нацыянальнай культуры. Так, мы вострыя. Дык такой і павінна быць журналістыка.

Магчыма, Генадзь Давыдзька не «часова непрацаздольны», а такі ж прафнепрыдатны, як і яго памочнік. Ці правільна, каб чалавек, які абсалютна не ведае цаны словам, вёў праграму, займаў пасаду старшыні дзяржтэлерадыёкампаніі?

**Ягор Марціновіч**

## Сціслa

### Беларус кінуў бутэльку з фарбай у маўзалей Леніна

Пенсіянер з Беларусі кінуў паўлітровую бутэльку з зялёнай фарбай у бок маўзалея. Мужчына не стаў тлумачыць свой учынак, патрабуючы выклікаць журналістаў і прадстаўнікоў Адміністрацыі прэзідэнта. Пасля затрымання яго шпіталізавалі ў адну з псіхіятрычных бальніц Масквы.

### Чарговы смяротны прысуд

Прысуд быў вынесены пасля перагляду крымінальнай справы, па якой раней 31-гадовы мужчына быў асуджаны да пажыццёвага зняволення.

### Адстаўка праз хваробу

Сяргей Буйноўскі вызвалены ад пасады намесніка кіраўніка Следчага камітэта ў сувязі з хваробай.

### Боснія і Герцагавіна просіцца ў Еўрасаюз

Краіна знаходзіцца ў статусе «патэнцыйнага кандыдата» на ўступленне з 2003 года. Падрыхтоўку да ўступлення ў Еўрасаюз на розных стадыях таксама вядуць Албанія, Чарнагорыя, Сербія, Македонія і Турцыя.

### Айсберг знішчыў пінгвінаў

У Антарктыдзе каля 150 тысяч пінгвінаў загінулі з голаду з-за гіганцкага айсберга, які ў 2011 годзе прышвартаваўся да іх калоніі. Ледзяная глыба заблакавала птушкам доступ да вады і ежы. Адлегласць да найбліжэйшага ўзбярэжжа склала 60 км. Гэты шлях пераадолелі толькі 10 тысяч пінгвінаў.

**ЗП, БЮ**

# Еўрасаюз зноў працягнуў руку Лукашэнку

Працяг са старонкі 1.

Санкцыі былі прыпыненыя ў тым ліку ў дачыненні да Аляксандра Лукашэнкі і яго сыноў, кіраўніка Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, міністра інфармацыі Ліліі Ананіч, старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка і яго папярэдніка Сцяпана Сухарэнкі. У спісе прадпрыемстваў, што належаць асобам, звязаным з Аляксандрам Лукашэнкам, значацца «Белтэхэкспарт», «Белтэх Холдынг», «Спецпрыборсэрвіс», «Трайпл», «Ракаўскі бровар», футбольны клуб «Дынама», «Прастор-Трэйд», «Акватрайпл», «Кварцмелпрам», Бярозаўскі камбінат сілікатных вырабаў.

У той жа час пад дзеяннем санкцый застаюцца чатыры чалавекі,


Федэрыка Магерыні.

якіх ЕС лічыць датычнымі да зніклення апазіцыйных палітыкаў у 1999—2000 гадах. Гэта Уладзімір Навумаў (былы міністр унутраных спраў), Віктар Шэйман (былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта), Юрый Сівакоў (былы міністр унутраных спраў) і Дзмітрый Паўлічэнка (былы камандзір спецназа).

За адмену санкцый выступалі Літва, Польшча, а разам з імі — Аўстрыя з яе традыцыйнымі бізнес-інтарэсамі на ўсходзе. Вядома, што Швецыя выступала за тое, каб санкцыі пакінуць.

У рашэнні аб зняцці еўрапейскіх санкцый з Беларусі няма геапалітыкі, Брусэль хоча падтрымаць крокі Беларусі ў правільным кірунку. Пра гэта заявіла кіраўнік дыпламатыі Еўрасаюза Федэрыка Магерыні на прэс-канферэнцыі па выніках пасяджэння Рады ЕС.

«Ніякай геапалітыкі. Нашы рашэнні заўсёды засноўваюцца на рэальных заслугах. Гэта адносіцца і да сённяшняга выпадку», — дадала Магерыні.

У станоўчым ключы адмену санкцый таксама пракаментавалі ў Маскве. «Гэты крок лішні раз паказвае абсалютную бессэнсоўнасць санкцый, бесперспектыўнасць працягу санкцыйнага дыялогу. Натуральна, мы вельмі пазітыўна гэта ўспрымаем. Лішні раз паказвае недасканаласць санкцыйнага мыслення», — зазначыў прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў.

Еўропа не ўпершыню спрабуе перазапусціць адносіны з лукашэнкаўцамі. Мінулыя спробы скончаліся новымі канфліктамі, аднак сітуацыя ва Украіне зноў прымусіла бакі сесці за стол перамоваў. Ці скарыстаецца Лукашэнка чарговым шанцам зрабіць Беларусь «еўрапейскай», а не «еўраазіяцкай» краінай? Пакуль ніхто не можа даць на гэта сцвярджальны адказ.

**Зміцер Панкавец**

## Апытанне

**Ці ўхваляеце вы рашэнне ЕС пра зняццё санкцый супраць лукашэнкаўцаў у аддзяку за пазіцыю Беларусі па Украіне і за вызваленне палітвязняў?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 86 | 20% |
| не | 262 | 61% |
| цяжка сказаць, складаная тэма | 82 | 19% |

Усяго прагаласавала 430.

## Самае чытанае на nn.by за 10—16 лютага

1 У цэнтры Мінска прайшла акцыя пратэсту індывідуальных прадпрымальнікаў
2 Ідэальны пост, або 20 дзяўчат у «Пагоні»
3 Адміністрацыя прэзідэнта адказала на пытанні «Нашай Нівы», растлумачыла асобныя аспекты Дырэктывы №3
4 Аляксандр Класкоўскі падлавіў міністра Лілію Ананіч на словах пра Алексіевіч
5 Прадпрымальніка Макаева зладзілі на кантрольнай закупцы
6 Новая беларуская ваенная дактрына — адказ на палітыку Пуціна?
7 Беларуска, прыгажуня, чэмпіёнка: Кацярына Вандар'ева носіць саколку з «Пагоняй»
8 Давыдзька: «Дзяржаве аб'яўлена інфармацыйная вайна»
9 Лічба дня. Колькі людзей сабралася на пратэст супраць падатку на пасылкі
10 «Ёсць такая прафесія — ілгаць штовечар»: на старонцы дыктара БТ з'явіліся крытычныя допісы

Не ўсё ў жыцці апошні раз!

**Афармленне падпіскі цяпер даступнае:**
- праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце **www.belpost.by**;
- праз плацежна-даведкавыя тэрміналы;
- у аддзяленнях паштовай сувязі;
- дома, запрасіўшы паштальёна.

Выпісаць «Нашу Ніву» можна ў кожным паштовым аддзяленні. Падпісацца можна з любога месяца.

Індывідуальная падпіска на 2016 (індэкс у каталозе — **63125**) — **48 000** руб./месяц

Для прадпрыемстваў на 2016 (індэкс — **631252**) — **20 000** руб./месяц

**Атрымаць газету магчыма:**
- па ўказаным адрасе (у паштовую скрыню);
- у абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання» (у пунктах паштовай сувязі);
- з рук у рукі (з дастаўкай да кватэры).

Афармляючы падпіску на абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання», можна скарыстацца зніжкай за дастаўку газеты.

# Прадпрымальнікі выйшлі на плошчу

**800 чалавек** сабраліся 15 лютага ў цэнтры Мінска.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Апытанне на nn.by**

**Ці падтрымліваеце Вы патрабаванне дробных гандляроў пра адмену ўказа №222?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 728 | 57% |
| Не | 140 | 11% |
| Падтрымліваю іх крытыку ўладаў, але падаткі яны павінны плаціць нароўні з іншымі | 335 | 26% |
| Цяжка сказаць | 74 | 6% |

Першапачаткова акцыю 15 лютага на Бангалоры планаваў старшыня прадпрымальніцкай арганізацыі «Перспектыва» Анатоль Шумчанка. Ён нават падаў заяўку ў Мінгарвыканкам. Аднак у апошні момант Шумчанка даў задні ход — заяўка была адкліканая. Сам ён прызнаўся, што ўладамі была пастаўленая ўмова: ці пачынаюцца перамовы ў Міністэрстве эканомікі, ці акцыя. Спадар Шумчанка абраў першы варыянт. Пазней у сваім фэйсбуку ён захапляўся людзьмі, што выйшлі на плошчу. Хаця сам так і не з'явіўся на Кастрычніцкай.

Аднак знайшліся такія людзі, якія сказалі: калі ўжо запланавалі акцыю, то яна павінна адбывацца. Прычым не на Бангалоры, далёка ад людскіх вачэй, а ў самым цэнтры сталіцы. А 12-й гадзіне цэнтральная плошча Мінска пачала запаўняцца людзьмі.

Гэта ў асноўнай масе былі дробныя гандляры. Людзі прыехалі з розных куткоў Беларусі: Гомеля, Віцебска, Гродна, Баранавіч, Барысава, Крупак. Затое чамусьці няшмат было людзей уласна з Мінска.

Мікалай Чарнавус з Баранавіч прыехаў у Мінск з бэйджыкам «Я — бандыт». Так нядаўна пра камерсантаў выказаўся Лукашэнка.

«Працаваў 25 гадоў прадпрымальнікам без выхадных і адпачынку, меў адну гандлёвую кропку. Маю малодшага сына Кольку, як і прэзідэнт, але за 25 гадоў я яго нікуды не адвазіў. Што я зарабіў? Толькі мазалі», — сказаў Чарнавус.

Прадпрымальнікі патрабуюць адмены ўказа №222 аб абавязковай сертыфікацыі тавараў. Многія кажуць, што на рынках ад Новага года працуе не болш за 20% гандлёвых кропак. І нават такія «штрэйкбрэхеры» выходзяць на страх і рызыку, бо адпаведных дакументаў не маюць. Усе прадпрымальнікі сведчаць, што пакуль на рынках не ходзяць падатковыя і іншыя праверкі, але яны чакаюць узнаўлення гэтага пасля сціхання пратэстаў.

Пакуль не зразумела, якім чынам іпэшнікі збіраюцца дасягаць сваёй мэты. Акцыя 15 лютага была, увогуле, стыхійнай. Рамантыкі кшталту Алеся Макаева хацелі стаяць на Кастрычніцкай да вечара, каб падцягваліся іншыя. Але большасць людзей пастанавіла разыйсціся.

Трэба заўважыць, што сілавікі абсалютна ніяк не ўмешваліся ў ходу мерапрыемства. Не было нават звыклых сяржантаў, якія складаюць пратаколы на ўдзельнікаў. Ніхто не замінаў удзельнікам падысці да Палаца Рэспублікі і прамаўляць з прыступак. Разганяць людзей у дзень адмены Еўрасаюзам санкцый было б смешна. Тым больш што супрацьпраўных дзеянняў з боку дэманстрантаў не было.

На сход камерсантаў прыйшлі і прадстаўнікі апазіцыі: Статкевіч, Някляеў, Лябедзька, Северынец. Асабліва цёпла людзі віталі Статкевіча. У нейкі момант натоўп нават гукаў «Мікола, Мікола». Было чуваць і «Жыве Беларусь».

Увогуле, гэтую акцыю ад папярэдніх адрознівала дастаткова вялікая колькасць палітычных матываў. Прадпрымальнікі гаварылі не толькі пра эканоміку. Напрыклад, іпэшнік са Жлобіна ў бліц-інтэрв'ю «НН» сказаў, што сітуацыя можа змяніцца толькі пасля змены ўлады. Падобныя словы гучалі і ад іншых людзей.

Наступны пратэст прадпрымальнікі запланавалі на 22 лютага. Зноў на Кастрычніцкай плошчы ў 12.00. Людзі не вераць, што кабінетныя перамовы могуць нешта даць.

**Зміцер Панкавец**

## Прадпрымальніка Макаева злавілі на кантрольнай закупцы

«Пры мне на гэтай кватэры **бралі ўсіх** — з «Анлайнера», «Сэканд.бай», «З рук у рукі».


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пра гэта расказала ягоная жонка Юлія Сцяпанава.

«Сашу патэлефанаваў мужчына, сказаў, што ад супольных сяброў — назваў імёны, вітанне перадаў, — і сказаў, што ўжо купляў у Сашы кран калісьці, — напісала Сцяпанава. — Увогуле, замовіў кран. Папрасіў яго прывезці, бо самавывезці няма як, а кран тэрмінова патрэбны. Без усялякай задняй думкі Саша павёз. Звычайны жылы дом, кватэра на другім паверсе. Тыпу муж і жонка — кран паглядзелі, усё іх задаволіла. Саша выпісаў гарантыю, яны далі грошы. І тут — «кантрольная закупка!» — з розных кутоў кватэры высыпаліся людзі з пасведчаннямі.

«Давайце пройдзем на кухню — у нас наступныя кліенты зараз».

Саша сказаў: «Буду стаяць тут — можа, хоць аднаго чалавека ўратую ад вас». Не далі — завялі-такі на кухню.

На кухні ўжо сядзелі гора-прадаўцы. Бралі ўсіх: з «Анлайнера», з «Сэканд.бай», з «З рук у рукі», кур'ераў з інтэрнэт-сайтаў... Нікога не хвалюе: сваё Вы прадаяце або гандлюеце ўвесь час. Даказаць нічога не магчыма — ніхто з гэтай кватэры не выйшаў без пратакола».

Штраф за гандаль без выпісвання чэка будзе складаць 30—40 мільёнаў, піша Сцяпанава.

**Сяргей Гезгала**

## «СБ» апавяла гісторыі беларускіх баевікоў-рэцэдывістаў «Наваросіі»

У «Советской Белоруссии» быў надрукаваны вялікі артыкул «Гастарбайтары вайны», у якім ішла гаворка пра грамадзян Беларусі, якія паехалі ваяваць на ўсход Украіны.

Аўтарам публікацыі выступіў галоўны рэдактар часопіса «Спецназ» Андрэй Дземянцьеўскі, які раней пісаў у негатыўным святле пра футбольных фанатаў.

Частка, якая прысвечаная беларусам, што ваюць на баку Украіны, малацікавая. Навага ў ёй мала. Яна грунтуецца на публікацыях у незалежных СМІ, у тым ліку «Нашай Ніве». Напрыклад, пра беларускіх інструктараў у батальёне «Азоў», а таксама пра даўбанутага Данілу Лешука (пазыўны Маджахед, батальён «Тарнада»), якога ўкраінскія ўлады арыштавалі і будуць судзіць за здзекі з цывільнага насельніцтва.

Затое шмат новай інфармацыі пра беларусаў, якія ваюць у шэрагах баевікоў «ЛНР» і «ДНР». Відаць, што тут беларуская міліцыя накапала шмат фактуры.


**Баявік Пушкін.**

Расказана гісторыя чалавека з пазыўным Пушкін з Магілёўшчыны. Паводле публікацыі, Пушкін быў затрыманы беларускімі сілавікамі, дапытаны адносна ўдзелу ў вайне. Пушкін нават прызнаўся, што атрымліваў якія-ніякія грошы. Аднак, мяркуючы па старонцы баевіка ў сацыяльнай сетцы «Аднакласнікі», Пушкін цяпер ізноў на волі і пазіруе на фотаздымках са зброяй.

Яшчэ адзін баявік — 38-гадовы ўраджэнец Ваўкавыска з пазыўным Гарыныч. Ён мае пяць судзімасцяў, у тым ліку за забойства. «СБ» паведамляе, што гэты чалавек, хутчэй за ўсё, наркаман. У баявых дзеяннях ён браў удзел у складзе разведкі «ЛНР». Разам з Гарынычам ваюе яшчэ адзін беларус з крымінальнай справай за плячыма.

Самае цікавае, што байцоў так званай «Наваросіі» нават абвінавачваюць у неанацызме. Гэта тычыцца нацбола з Салігорска Ігара Шчукі, які ў свой час быў у шэрагах РНЕ.

«Мяркуючы па матэрыялах, сабраных МУС на ўдзельнікаў данбаскіх баёў, беларусаў, якія ваююць на баку «ДНР» і «ЛНР», у некалькі разоў больш, чым іх землякоў з украінскіх добраахвотніцкіх батальёнаў. Да таго ж беларускія прыхільнікі сепаратыстаў і ўзростам старэйшыя, і вайсковая падрыхтоўка, баявы вопыт на парадак вышэйшыя», — піша «Советская Белоруссия».

Аднак пасля такіх прызнанняў ідзе зусім нелагічная выснова: «Асаблівую пагрозу нацыянальнай бяспецы прадстаўляюць беларускія грамадзяне, якія ваююць у складзе падраздзяленняў АТА. У большасці сваёй гэта прадстаўнікі... маладзёжнага асяроддзя... Яны прапаведуюць ідэалогію агрэсіўных калафутбольных рухаў і гвалтоўную форму звяржэння дзяржаўнай улады, адкрыта супрацьпастаўляюць сябе прававахоўнай сістэме», — адзначаюць у МУС.

Сярод беларусаў на баку «ДНР» і «ЛНР» ёсць і забойцы, і наркаманы, і катэгарычныя ненавіснікі беларускай дзяржаўнасці, але страх у МУС выклікаюць усё адно палітычныя праціўнікі. Наіўнасць ці старонасць?

**Зміцер Панкавец**

**«СБ» паведамляе, што ўжо 8 беларусаў загінула ва Украіне**

Публічна вядома пра 4 выпадкі. За Украіну загінуў берасцеец Алесь Чаркашын, яшчэ трое беларусаў загінулі, ваюючы на баку баевікоў. Хто астатнія 4 чалавекі, невядома.

**«Элэнэраўцу» ўдалося ўцячы ад беларускіх спецслужб**

Ураджэнец Мастоўскага раёна з пазыўным Мантана пасля вяртання ў Беларусь хваліўся, што ўласнаручна забіў 20 украінцаў!

Раней за свае 22 гады беларус меў аж 5 судзімасцяў за крадзяжы. На радзіме Мантана вербаваў аднакласніка, якому абяцаў штомесячны заробак у памеры 300 даляраў, а таксама магчымасць займацца марадзёрствам і забіраць рэчы загінулых.

# Адміністрацыя прэзідэнта адказала на пытанні «Нашай Нівы», растлумачыла асобныя аспекты Дырэктывы №3



Кіраўнік дзяржавы ўнёс змены ў Дырэктыву №3. Гэтыя змены маюць важнае значэнне для развіцця эканомікі і грамадства.

Мы палічылі патрэбным папрасіць, каб распрацоўнікі дакумента растлумачылі некаторыя яго моманты.

Вось адказы на нашы пытанні, якія мы атрымалі ад прэс-службы прэзідэнта Беларусі. Вылучэнні шрыфтам у адказах — прэс-службы.

**1. Цытата:** *«Забяспечыць планамерную дыверсіфікацыю экспарту для дасягнення роўнага размеркавання экспартных паставак паміж трыма рынкамі: Еўразійскага эканамічнага саюза, Еўрапейскага Саюза і іншых краін, у тым ліку «далёкай дугі», якое да 2020 года павінна скласці суадносіны трацina—траціна—траціна».*

**Пытанне: якія тавары і паслугі з Беларусі, па-Вашаму, могуць прабіць сабе дарогу на рынкі ЕС і трэціх краін?**

Падзел экспарту тавараў паміж рынкамі ЕАЭС — ЕС — «далёкая дуга і іншыя краіны» з'яўляецца арыенцірам знешнеэканамічнай дзейнасці на бліжэйшую пяцігодку. Раўнаважкае размеркаванне экспартных таварапатокаў дазволіць дасягнуць збалансаванасці ўплыву знешняга попыту на нацыянальную эканоміку. Уздзеянне знешніх шокаў, эканамічных праблем асобных дзяржаў (нават найбуйнейшых гандлёвых партнёраў) на беларускую эканоміку ў такім выпадку стане больш эластычным, што дасць магчымасць нівеліраваць шокі для нашай эканомікі.

У дадзеным кантэксце дзяржава (у асобе Урада) выконвае функцыю мэтапакладання, вызначаючы неабходнасць дасягнення раўнаважкага размеркавання экспарту паміж рынкамі. Гэта мэта, для дасягнення якой дзяржава распрацоўвае комплекс мер па стварэнні неабходных умоў: фінансавых, адміністрацыйных, лагістычных і іншых, у тым ліку і тэхналагічных, распрацоўваючы і карэктуючы сваю інвестыцыйную праграму. Бо не сакрэт, што большасць створаных дзяржавай прадпрыемстваў мае экспартаарыентаваную скіраванасць (у тым ліку ў створаным індустрыяльным парку «Вялікі камень»).

Такім чынам, вызначаючы мэту, дзяржава стварае ўмовы для яе дасягнення. Але гэта не значыць, што яна павядзе экспарцёраў за руку на знешні рынак. Свой экспартны шлях беларускія арганізацыі павінны вызначыць самі. Было б няправільна ў кабінетах міністэрстваў вызначаць тыя тавары, якія айчынныя вытворцы павінны паставіць на той ці іншы рынак. Відавочна, што кампетэнцыі ў сферы міжнароднага маркетынгу сканцэнтраваныя ў гаспадарчых суб'ектах, а не дзяржаўным апараце.

**2. Цытата:** *«Наладзіць супрацоўніцтва вядучых беларускіх вытворцаў з профільнымі транснацыянальнымі карпарацыямі ў мэтах прыцягнення ... сучасных тэхналогій, абсталявання, патэнтаў..., атрымання доступу да таваранраводнай сеткі транснацыянальных карпарацый».*

**Пытанне: што трэба разглядаць як удалы прыклад такога супрацоўніцтва? Якім чынам тут будзе выкарыстаны вопыт развіцця эканомікі Кітая ў папярэднія дзесяцігоддзі?**

У ліку найважнейшых задач па развіцці беларускай эканомікі на бліжэйшую перспектыву — прыцягненне прамых замежных інвестыцый. Гэта звязана не толькі з магчымасцю прыцягнення фінансавых рэсурсаў, але і прыходам адначасова з імі перадавых вытворчых і кіраўніцкіх тэхналогій.

Галоўнымі інструментамі актывізацыі інвестыцыйнай дзейнасці і прытоку замежных інвестыцый павінны стаць фарміраванне эфектыўнага інстытуцыйнага асяроддзя, спрыяльнага для вядзення бізнэсу, зніжэнне рэгулятыўных рызык, падтрымка справядлівай канкурэнцыі і забеспячэнне безумоўных гарантый правоў прыватнай уласнасці.

У развіцці супрацоўніцтва брэндавых вытворцаў з аднапрофільнымі транснацыянальнымі карпарацыямі акцэнт будзе зроблены на стварэнне на тэрыторыі краіны вытворчасцяў, якія дапаўняюць ужо існуючыя ў форме сумесных прадпрыемстваў, прыцягненне прамых замежных інвестыцый транснацыянальных карпарацый у брэндавыя беларускія вытворчасці ў форме сучасных тэхналогій, абсталявання, патэнтаў на вытворчасць прадукцыі рынкавай навізны, атрыманне доступу да таваранраводнай сеткі транснацыянальных карпарацый. Эканамічныя механізмы стымулявання супрацоўніцтва з транснацыянальнымі карпарацыямі будуць вызначаны ў рамках нарматыўных прававых актаў, якія рэгламентуюць прыцягненне замежных інвестыцый.

За кошт прыцягнення замежных крэдытных рэсурсаў, у тым ліку КНР, плануецца развіццё вытворчасць камплектуючых і аўтакампанентаў (холдынгі «БелаўтаМАЗ», «Амкадор», «Мінскі маторны завод» і «Аўтакампаненты» і іншыя айчынныя прадпрыемствы), а таксама развіццё нафтахімічнага комплексу (ААТ «Гродна Азот» і айчынныя нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы).

У цяперашні час у якасці прыкладу эфектыўнага супрацоўніцтва можна прывесці ЗЗАТ «Бровары Хайнэкен».

На беларускім рынку кампанія *Heineken* працуе са снежня 2007 года і з'яўляецца найбуйнейшым вытворцам піва і квасу ў краіне, у тым ліку ажыццяўляючы вытворчасць імпартных брэндаў па ліцэнзіі. Вытворчасць размешчана ў Бабруйску. З моманту ўваходжання ў склад нідэрландскага канцэрна *Heineken* завод прайшоў інтэграцыйны этап і сёння ўяўляе сабой тэхналагічна дасканалую вытворчую пляцоўку, абсталяваную сучасным абсталяваннем. Дыстрыбуцыя ажыццяўляецца праз уласныя аддзелы збыту, размешчаныя па ўсёй краіне.

Акрамя таго, у рэспубліку прыцягнутыя вядучыя сусветныя кампаніі ў сферы дрэваапрацоўкі і мэблевай прамысловасці: ЗТАА «ВМГ Індустры» і ЗТАА «Мебелайн» (абодва — партнёры IKEA) у СЭЗ «Магілёў».

ЗТАА «ВМГ Індустры» — адна з кампаній міжнароднага дрэваапрацоўчага холдынгу «VMG», з цэнтральным офісам у г.Клайпеда (Літва). Холдынг «VMG» аб'ядноўвае некалькі прадпрыемстваў на тэрыторыі Літвы, Беларусі і Украіны, а таксама з'яўляецца адным з найбуйнейшых вытворцаў і экспарцёраў мэблі, пліт ДСП у краінах Балтыі.

Разам з тым мы разумеем, што патэнцыял супрацоўніцтва з ТНК не выкарыстоўваецца ў поўнай меры. Менавіта таму ў абноўленую Дырэктыву і быў уключаны дадзены тэзіс як дэманстрацыя цвёрдасці нашых намераў у будучыні актывізаваць працу айчынных прадпрыемстваў у гэтым напрамку.

**3. Цытата:** *«Захаваць долю на рынку Расійскай Федэрацыі па пастаўках ... прадукцыі, пры продажы якой дасягаецца максімальная эфектыўнасць».*

**Пытанне: якія крытэры эканамічнай эфектыўнасці будуць улічвацца?**

Расія па-ранейшаму застаецца найбуйнейшым гандлёвым партнёрам Беларусі, і для асобных беларускіх тавараў расійскі рынак застаецца прэміяльным. Пры гэтым толькі самі экспарцёры на аснове дакладных эканамічных разлікаў могуць вызначаць абгрунтаванасць экспарту прадукцыі на той ці іншы рынак.

У знешнеэканамічнай дзейнасці, як і ў любой іншай сферы, эфектыўнасць праяўляецца ў максімізацыі прыбытку пры мінімальных выдатках. Аднак у дадзеным выпадку гаворка ідзе не столькі аб колькасных паказчыках, колькі пра паказчыкі эфектыўнасці, і кіравацца тут перш за ўсё неабходна патрэбамі рынку.

На сённяшні дзень на рынку Расіі склалася ўнікальная сітуацыя для нарошчвання беларускага экспарту: санкцыі ў дачыненні да еўрапейскага харчавання, забарона на ўвоз прадуктаў з Украіны, цяпер яшчэ і турэцкіх тавараў і паслуг.

На расійскім рынку вызваляецца шэраг ніш, дзе наша прадукцыя запатрабавана: напрыклад, у 2015 г. доля ў расійскім імпарце мяса птушкі павялічылася да 53% (у 2014 годзе — 33%), масла да 78% (2014 г. — 47% ). Пры гэтым не трэба думаць, што карыстаюцца попытам толькі прадукты харчавання: нашы грузавыя аўтамабілі, трактары, седлавыя цягачы значна павялічылі ўдзельную вагу ў расійскім імпарце, пацясніўшы многіх сусветных вытворцаў.

У бліжэйшыя гады беларускім вытворцам трэба будзе правесці яшчэ шмат працы для ўтрымання заваяваных сегментаў расійскага рынку і па выхадзе на новыя і перспектыўныя, у сувязі з гэтым у цяперашні час ва Урадзе ідзе праца над праектам Нацыянальнай праграмы развіцця экспарту на 2016—2020 гг., у рамках якой распрацоўваюцца экспартныя стратэгіі і «дарожныя карты».

**4. Цытата:** *«Павысіць якасць падрыхтоўкі кіраўнічых і інжынерна-тэхнічных кадраў ...».*

**Пытанне: якім чынам будзе арганізавана павышэнне якасці? Гаворка пра беларускія ВНУ ці пра накіраванне на вучобу за мяжу?**

Павышэнне якасці падрыхтоўкі кіраўнічых і інжынерна-тэхнічных кадраў будзе забяспечвацца ў дзвюх плоскасцях.

Па-першае, фарміраванне і развіццё сучаснай сістэмы бізнэс-адукацыі на аснове выкарыстання перадавых методык і тэхналогій кіравання. У 2015 годзе прынятая Канцэпцыя фарміравання і развіцця сістэмы бізнэс-адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь і план мерапрыемстваў па яе рэалізацыі (далей — Канцэпцыя бізнэс-адукацыі), у рамках якіх намячаецца правядзенне ў 2016—2020 гг. работы па мадэрнізацыі сацыяльнага інстытута адукацыі.

Даведачна. Плануецца стварэнне бізнэс-школ, у якіх будуць рэалізоўвацца праграмы МВА. Згодна з Канцэпцыяй бізнэс-адукацыі, да 2020 года плануецца дасягнуць наступных паказчыкаў:

— гадавы аб'ём рынку бізнэс-адукацыі — 50 млн даляраў ЗША;

— гадавы аб'ём спецыялістаў, якія праходзяць навучанне па праграмах МВА, — 1500 слухачоў;

— колькасць бізнэс-школ — 25.

Па-другое, арганізацыя навучання мэтавых груп спецыялістаў методыкам інжынерна-тэхнічнай творчасці (ТРВЗ) і функцыянальна-вартаснага аналізу (ФСА) у рамках Дзяржаўнай праграмы інавацыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2016—2020 гг. У якасці такіх мэтавых груп выступаюць як выкладчыкі тэхнічных ВНУ, так і спецыялісты канструктарскіх бюро, сістэмаўтваральных прадпрыемстваў рэальнага сектара эканомікі. Такое навучанне будзе арганізавана як на базе беларускіх ВНУ, так і камерцыйных арганізацый, якія атрымаюць у адпаведнасці з Канцэпцыяй бізнэс-адукацыі статус бізнэс-школы. Акрамя таго, «кропкава» будзе ажыццяўляцца стажыроўка асобных мэтавых груп за мяжой.

**5. Цытата:** *«Вызначыць у якасці прыярытэту дзяржаўнай інавацыйнай палітыкі развіццё высокатэхналагічных кірункаў нацыянальнай эканомікі, заснаваных на выкарыстанні бія- і нанатэхналогій, інфармацыйных тэхналогій, новых матэрыялаў ...».*

**Пытанне: ці маглі б Вы прывесці наяўныя прыклады поспехаў у гэтых галінах, на якія можна арыентавацца?**

Можна прывесці наступныя прыклады дасягненняў у названых высокатэхналагічных кірунках.

У дачыненні да IT-індустрыі — функцыянаванне Парка высокіх тэхналогій (ПВТ), дзе занята больш за 150 кампаній, у якіх працуе больш чым 20 тыс. чал.

У дачыненні да нана- і біяіндустрыі. Распрацоўкі ў сферы нанатэхналогій ажыццяўляюць 7 навуковых арганізацый НАН Беларусі, а таксама вядучыя ВНУ краіны. Вытворчасць прыбораў, якія могуць быць выкарыстаны ў дадзенай сферы, ажыццяўляюць 15 арганізацый, у тым ліку 9 суб'ектаў малога прадпрымальніцтва. Акрамя прадпрыемстваў нанаэлектронікі, яшчэ 21 арганізацыя занятая вытворчасцю нанатэхналагічнай прадукцыі. Перспектыўнымі з пункту гледжання камерцыйнага выкарыстання з'яўляюцца 27 найменняў нанатэхналогій і

нанатэхналагічнай прадукцыі, створаных у Рэспубліцы Беларусь.

Вытворчасць фармацэўтычнай прадукцыі ажыццяўляюць 26 юрыдычных асоб, 10 з якіх — сістэмаўтваральныя для беларускага рынку. Доля лекавых сродкаў айчыннай вытворчасці — 52,7% у агульным аб'ёме лекаў, прадстаўленых на беларускім рынку (у вартасным выражэнні). У рамках Дзяржаўнай праграмы «Інавацыйныя біятэхналогіі» за перыяд 2010—2015 гг. створана 8 новых арганізацый, 28 вытворчасцей, 10 арганізацыйных структур (цэнтры, лабараторыі, палігоны, участкі), створаны рэгістр донараў касцявога мозгу, банк штамаў прамыслова каштоўных мікраарганізмаў.

**6. Цытата:** *«... забеспячэнне паскоранага развіцця Парка высокіх тэхналогій, Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парка «Індустрыяльны парк «Вялікі камень», навукова-тэхналагічных паркаў у якасці пляцовак для арганізацыі інавацыйных і высокатэхналагічных вытворчасцей, заснаваных на тэхналогіях V і VI тэхналагічных укладаў...»*

**Пытанні: ці не адаб'ецца на гэтых планах запавольванне росту эканомікі Кітая? Ці могуць з'явіцца адпаведнікі Парка высокіх тэхналогій у іншых гарадах Беларусі?**

У дачыненні да ўплыву дынамікі развіцця эканомікі КНР на тэмпы будаўніцтва Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парка пытанне ставіцца некарэктна, паколькі рэзідэнтамі парка ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь могуць быць як кітайскія кампаніі, так і прадпрыемствы кампаній іншых краін. Зыходзячы з гэтага, развіццё парка ў пэўнай ступені будзе залежаць ад тэрмінаў завяршэння будаўніцтва аб'ектаў інфраструктуры парка і фармавання яго пазітыўнага іміджу для патэнцыйных інвестараў у міжнароднай дзелавой супольнасці.

Што датычыцца развіцця ПВТ, то ўжо ў 2016 годзе плануецца адкрыццё філіяла ПВТ у Гродне.

**7. Цытата:** *«Беларусь па прадукцыйнасці працы адстае ад узроўню Еўрапейскага Саюза амаль у 4—5 разоў, што абумоўлена не толькі тэхніка-тэхналагічнымі прычынамі, але і праблемамі неэфектыўнай занятасці, якія патрабуюць яе рэструктурызацыі з улікам развіцця малога і сярэдняга прадпрымальніцтва».*

**Пытанне: якія меры будуць прынятыя? Ці няма небяспекі, што павышэнне канкурэнцыі на рынку працы можа выклікаць сацыяльнае напружанне?**

Цяпер рашэнні, якія прымаюцца Урадам, накіраваны на стымуляванне развіцця эфектыўнай прамысловай вытворчасці, у тым ліку за кошт росту прадукцыйнасці працы.

Дасягненне пастаўленых мэтаў будзе забяспечвацца за кошт:

— тэхнічнага пераўзбраення дзейных вытворчасцей, якое забяспечвае паляпшэнне тэхналагічных працэсаў;

— правядзення эканамічнай мадэрнізацыі, у рамках якой рэалізуюцца мерапрыемствы па аптымізацыі дапаможных службаў прамысловых арганізацый і перадачы гэтых функцый праз аўтсорсінг спецыялізаваным кампаніям і малому бізнэсу, а таксама ўкаранення аўтаматызаваных сістэм кіравання рэсурсамі і інш.;

— будаўніцтва новых вытворчасцей, у тым ліку накіраваных на стварэнне высокапрадукцыйных працоўных месцаў.

Прыярытэтнай задачай для прамысловасці з'яўляецца фарміраванне ўмоў для стварэння новых высокаэфектыўных вытворчасцяў з узроўнем прадукцыйнасці працы, якая не саступае сусветным аналагам.

У 2011—2014 гадах высока- і сярэднетэхналагічнымі (высокага ўзроўню) апрацоўнымі вытворчасцямі забяспечаны прырост аб'ёмаў на ўзроўні 7,6%. Пры гэтым высокатэхналагічны сектар прамысловасці дэманструе больш высокія тэмпы развіцця ў параўнанні з астатнімі галінамі.

У 2015 годзе забяспечана збалансаванае развіццё прамысловасці: невысокія тэмпы прамысловай вытворчасці (93,4% да 2014 года) на фоне скарачэння запасаў гатовай прадукцыі на складах прадпрыемстваў (68,7% да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці — мінімальны ўзровень за 3 гады) і росту рэнтабельнасці продажаў у прамысловасці (9%).

У новай пяцігодцы з мэтай якаснага развіцця прамысловасці асноўная ўвага будзе нададзена рэфармаванню яе структуры, у тым ліку за кошт:

— фарміравання высокатэхналагічнага сектара;

— нарошчвання экспартнага патэнцыялу прамысловай прадукцыі;

— паглыблення вытворчай кааперацыі і прамысловага супрацоўніцтва ў рамках ЕАЭС, выкарыстання патэнцыялу супольнага рынку і стымулявання экспарту сумесна выпрацаванай прадукцыі ў трэція краіны;

— паскоранага развіцця вытворчасцей, якія базуюцца на перапрацоўцы мясцовых сыравінных рэсурсаў (дрэваапрацоўка, вытворчасць харчовых прадуктаў, перапрацоўка сельскагаспадарчай прадукцыі) з павелічэннем глыбіні перапрацоўкі рэсурсаў і мінімізацыяй тэхнагеннага ўздзеяння на навакольнае асяроддзе і інш.

Важкі рэзерв сканцэнтраваны ў сферы малога і сярэдняга бізнэсу. Стварэнню новых працоўных месцаў у гэтай сферы будуць садзейнічаць фарміраванне спрыяльнага інстытуцыйнага асяроддзя, падтрымка развіцця новых відаў бізнэсу.

У мэтах забеспячэння рэалізацыі палажэнняў Дырэктывы № 3 у цяперашні час Урадам Рэспублікі Беларусь арганізавана работа па падрыхтоўцы плана мерапрыемстваў, у якім будзе вызначаны канкрэтны план дзеянняў па кожным з чатырох яе кірункаў. Дадзены план мерапрыемстваў павінен быць зацверджаны Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь не пазней за 26 красавіка 2016.

# Кірыл Руды адстойвае лібералізм і нагадвае, што «кватаранты не робяць рамонт у здымнай кватэры»

12 лютага на Міжнароднай кніжнай выставе ў Мінску прайшла прэзентацыя кнігі «Фінансавая дыета. Рэформы дзяржаўных фінансаў Беларусі». Складальнікам і суаўтарам кнігі стаў памочнік прэзідэнта па эканоміцы Кірыл Руды.

Варта адзначыць, што да працы з «Фінансавай дыетай» былі прыцягнутыя эксперты з незалежных экспертных цэнтраў, такіх як Berос і ІПМ.

Прэзентацыя праходзіла ў дастаткова дзіўных дэкарацыях, калі на сценах былі развешаныя цытаты з Францішка Скарыны на расейскай мове, а побач ляжаў торт у выглядзе Бібліі Скарыны. За імпрэзай назірала каля 50 чалавек.

«Мы ўбачылі такі рукапіс, такую сур'ёзную навуковую працу, за якой стаяць не толькі канкрэтныя асобы, дзяржаўныя дзеячы, але, самае галоўнае, сур'ёзнае навуковае даследаванне тых працэсаў і з'яў, якія адбываюцца ў эканамічным жыцці краіны, — сказала міністр інфармацыі Лілія Ананіч, прэзентуючы кнігу. — Мы былі ўпэўненыя, што кніга будзе цікавая не толькі для эканамістаў, але і для тых, хто ўважліва ўглядаецца ў жыццё і разумее, што жыццё разнастайнае і ў ім бываюць перыяды, калі ўсё грамадства і дзяржава павінны больш уважліва ставіцца да такога адчувальнага сегменту, як дзяржаўныя фінансы».

У той жа час Ананіч падкрэсліла дасягненні краіны. «Мы сытыя, абутыя, апранутыя, не ходзім з працягнутай рукой, у нас выдатная моладзь, і шмат за гэтыя дваццаць гадоў зроблена ў краіне», — дадала яна.

Кніга выйшла таксама пры падтрымцы прадстаўніцтва ПРААН у Беларусі. Кіраўнік прадстаўніцтва Санака Самарасінха сказаў, што ўпершыню пра кнігу пачуў у садзе ўласнага дома ад Кірылы Рудага. «Спачатку я скептычна паставіўся да гэтай ідэі», — шчыра прызнаўся спадар Самарасінха.

Прамова самога Кірылы Рудага цягнулася каля 15 хвілін. Вось некаторыя моманты з яго выступу:




ВАДЗІМ ЗАМІРОЎСКІ, TUT.BY

Лілія Ананіч і Кірыл Руды падчас прэзентацыі.

«Калі эканамічны рост спыняецца, то для гэтага прапануоўваецца фінансавая дыета, то бок пераход на рацыянальны механізм выкарыстання дзяржаўных рэсурсаў, каб грошы размяркоўвалі бесстаронна.

Чаканні, пра якія я чуў ад сяброў і знаёмых, ці будуць тут адказы на пытанні: што нам патрэбна развіваць, якія галіны будуць прыярытэтнымі, як мы бачым будучыню. Насамрэч, гэтага ў кнізе няма.

Больш за тое, да такой папулярнай у Беларусі галіны, як інфармацыйныя тэхналогіі, якая бачыцца відавочнай для развіцця, у нас стаўленне дастаткова скептычнае. Спадзяюся, гэта выкліча пэўныя дыскусіі, нават крытыку аўтараў.

У кнізе расказана пра тры варыянты, як выбіраць прыярытэты развіцця.

Адзін варыянт — гэта верыць, што сённяшнія прыярытэтныя прадпрыемствы дадуць вынік. Другі варыянт — адчуць дар празорцы, прызначыць новыя прадпрыемствы прыярытэтнымі і чакаць выніку ад іх. Трэці варыянт — мы не можам бачыць будучыню, нам трэба ісці ад жыцця, ад канкурэнцыі.

Для таго, каб канкурэнцыя з'явілася, прапануоўваецца перайсці на конкурсную дзяржаўную падтрымку. Напрыклад, вывесці з падначалення міністэрстваў прадпрыемствы, акунуць іх у больш канкурэнтнае асяроддзе.

Але самым важным элементам для аздараўлення арганізма з'яўляюцца правільныя стымулы. Гэтыя стымулы не абавязкова павінны быць каманднаадміністрацыйнымі, але і добраахвотна-рыначнымі. Гэта праблема вельмі складаная. Цяпер ёсць дыскусія «сваё-несваё», «прыватнае-дзяржаўнае».

Калі вобразна падысці да спрэчкі, то ёсць такая аналогія: кватаранты не робяць рамонт у здымнай кватэры. Каб з'явіліся правільныя стымулы, павінен з'явіцца шырокі пласт уласнікаў, якія і будуць ствараць правільныя стымулы для эканомікі.

У кагосьці ёсць перасцярогі, у кагосьці — спадзяванні, што гэтая кніга — гэта маніфест лібералаў. У кнізе няма лібералізму ў яго звыклым значэнні. Няма заклікаў падняць эканоміку за кошт сацыяльнай сферы. Цэнтральныя ідэі кнігі, наадварот, гучаць дастаткова кансерватыўна. Гаворыцца пра ўзмацненне прававога парадку, кантроль над грашыма.

Сёння ў коле кнігалюбаў я б хацеў нагадаць, хто такія лібералы ў іх першасным значэнні. Менавіта лібералы ставяць прыярытэтам сацыяльную сферу. Яны выступаюць за адукацыю, ахову здароўя, культуру. У свой час менавіта лібералы, а не кансерватары адмянілі рабства, увялі пенсіі, дапамогу па беспрацоўі, дапамогу сям'і. Лібералы абараняюць экалогію, выступаюць за гендарную роўнасць. Таму ў гэтым сэнсе кніга з'яўляецца выключна ліберальнай. Бо галоўным прыярытэтам «фінансавай дыеты» стаіць сацыяльная сфера.

Менавіта сацыяльная сфера дае максімальны эфект для ўсяго грамадства, як ніводная іншая сфера. Калі развіць сацыяльную сферу, то яна дае зваротны эфект самой эканоміцы, кожнаму чалавеку. Пры развітай сацыяльнай сферы, пры тых жа фізічных і маральных высілках, вырасце прадукцыйнасць працы, заробкі і ўзровень жыцця. Усё гэта магчыма, безумоўна, пры датрыманні рыначнай эканомікі».

Пакуль што ніхто не можа ведаць, ці будуць выкарыстаныя ідэі Кірылы Рудага і ягонага кола кіраўніцтвам краіны, аднак нават тое, што яны гучаць, — гэта нешта новае для Беларусі.

**Зміцер Панкавец**

# Колькі заплацяць за камуналку за студзень Ярмошына і Шчоткіна?

Уся краіна абмяркоўвае рост камуналкі. Ад пачатку студзеня многія тарыфы істотна выраслі, і беларусы атрымалі нашмат большыя рахункі, чым прывыклі. Да таго ж студзень быў даволі марозным, а значыцца, плата за ацяпленне атрымалася найвялікшай.

Тарыфы выраслі для ўсіх — і багатых, і бедных.

### Дарагі газ у Ярмошынай

Днямі старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына (уласніца цаглянага дома плошчай 270 м² у Драздах) атрымала квітанцыю аб аплаце вады, каналізацыі і вывазе смецця на 119 400 рублёў.

Дадатковыя 210 тысяч яна штомесяц плаціць за ахову дома.

Найбольшыя плацяжы выстаўляюцца за спажытыя газ і электрычнасць.

Ярмошына ў апошнія месяцы надоўга выязджала на адпачынак за мяжу — у Італію і Францыю. Тым не менш дом без ацяплення не пакінеш — у мінулым месяцы Ярмошынай налічана за газ ажно 635 тысяч.

### Кватрплата Шчоткінай вырасла на 59%

Марыяна Шчоткіна — міністр працы і сацыяльнай абароны.

Шчоткіна дабудоўвае сабе катэдж у «Драздах-2», а пакуль жыве ў прасторнай трохпакаёвцы ў сталічным спальным раёне Кунцаўшчына.

За снежань 2015 года, калі яшчэ дзейнічалі «старыя» тарыфы, Шчоткіна мусіла заплаціць за камуналку 420 400 рублёў.

У студзені 2016 года лічба істотна вырасла — да 667 800 рублёў. Такім чынам, яе персанальны рост кватрплаты склаў 59%.

Дадаткова Шчоткіна сплачвае 70 тысяч рублёў за ахову кватэры.

Калі дадаць аплату за электрычнасць і стацыянарны тэлефон, агульны памер камуналкі міністра працы і сацыяльнай абароны дарасце да 900 тысяч рублёў.

Ягор Марціновіч

# Інваліды па зроку шляхам забастоўкі дабіліся выплаты мінімальнага заробку

Работнікі аршанскага ПУП «Элект» атрымалі па... 900 тысяч за месяц.

Чытачы «Нашай Нівы» з Оршы папрасілі напісаць пра сітуацыю на аршанскім прадпрыемстве «Элект», якое належыць Беларускаму таварыству інвалідаў па зроку. 51% работнікаў там маюць фізічныя абмежаванні.

«10 лютага была забастоўка. Задняй датай змянілі нормы, і аказалася, што ўсе інваліды на прадпрыемстве не выканалі нормы на месяц. І з улікам гэтага выдалі разліковыя па 900 тысяч рублёў, а некаторым і яшчэ менш.

Потым ініцыявалі сход, на якім сказалі, што могуць даслаць нармавальніка, але гэта нічога не зменіць і нормы будуць такія, якія патрэбныя ім. У выніку цэх спыніў працу на 4 гадзіны. Быў напісаны калектыўны зварот у камітэт па працы. Тады дырэктар кудысьці раптам знік, а праз гадзіну выдалі новыя разлікоўкі з вызначаным дзяржавай мінімальным заробкам (бо працоўны дзень у інвалідаў не 8, а 7 гадзін — і мінімальная зарплата памяншаецца адпаведна). Пасля гэтага цэх запрацаваў», — напісалі нам чытачы.



**Калі мы купляем электратавары, мы можам выбраць разеткі, вілкі, выключальнікі беларускай вытворчасці. Такім чынам мы падтрымаем інвалідаў па зроку.**

Яны таксама даслалі нам аўдыёзапіс сходу, які пацвярджае іх словы.

«Што гэта за норма, якую не выконвае паўцэха? — абуралася на сходзе адна з работніц. — Прадпрыемства інваліднае, людзі працуюць з абмежаванымі магчымасцямі. Што гэта за норма, што, адпрацаваўшы 20 гадоў на прадпрыемстве, я не магу выканаць? Пакажыце мне чалавека, які зробіць 950 вілак? Мо я нешта няправільна раблю, я пагляджу, як ён робіць. Дзе гэта норма, дзе гэты загад? Нам ніхто не паказаў дакументаў».

Прадпрыемства вырабляе электратавары. Гэта работа па сілах інвалідам.

Работнікі з Оршы просяць арганізаваць справу так, каб хоць мінімальны заробак яны маглі зарабіць.

«У нас людзі атрымалі 900 тысяч! Я за кватэру заплачу, і на што я буду жыць?» — справядліва кажа адна з жанчын.

«Хопіць, таварышы, давайце хоць адзін раз пастаім за сябе так, каб яны рот закрылі і зрабілі сваю справу так, як нам гэта трэба! Проста гэта бандыты! З такім заробкам як яны ўвогуле могуць тут штосьці патрабаваць? Я ніколі не атрымліваў такі маленькі заробак!» — заклікаў адзін з рабочых.

З гэтага і пачаўся страйк.

Каб разабрацца ў сітуацыі, мы патэлефанавалі ў адміністрацыю прадпрыемства. Дырэктар філіяла Раман Чыжык факт працоўнага канфлікту адмаўляе.

«Штомесяц мы праводзім планавы сход у цэху. І ўчора атрымалася тэхнічная памылка пры разліку. У нас ёсць норма аплаты працы. Цяпер усё на камп'ютарах, і вось здарылася памылка пры разліку. Пытанне гэтае падымалася, і яго мы вырашылі».

У галаўным прадпрыемстве ў Віцебску пра збой ведалі. У дырэкцыі патлумачылі, што на сходзе ўзнікла пытанне наконт заробкаў і яно вырашылася на карысць работнікаў прадпрыемства.

На наступным сходзе рабочым паведамілі, што павышэнне нормаў адклалі на сакавік. Незадаволеным прапанавалі звольніцца. Работнікі, у сваю чаргу, патрабуюць захавання рэалістычных норм вырабаткі і пераходу з кантрактаў на бестэрміновыя працоўныя дамовы.

Мікіта Недаверкаў



# Лукашэнка жорстка раскрытыкаваў Шаева

Што рабіў не так былы кіраўнік Следчага камітэта?

Выступаючы на пашыраным пасяджэнні калегіі Следчага камітэта, кіраўнік Беларусі расказаў пра прычыны змены кіраўніка ведамства.

«Нядаўна даваўся пайсці на крок і запрасіць на пасаду старшыні новага чалавека — Івана Наскевіча», — адзначыў ён.

«Чаму я пайшоў на звальненне з пасады былога старшыні і прызначэнне новага? Была дапушчана, мабыць, памылка пры прызначэнні або ўпушчаны кантроль за дзейнасцю самога старшыні», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Валянцін Шаеў быў адпраўлены ў адстаўку 5 лістапада 2015 года. Шаеў родам з Глыбокага, у яго чацвёра дзяцей. Цяпер ён будуе дом у раёне «Вяснінка». Новай пасады пасля адстаўкі Валянцін Шаеў не атрымаў.

ЗП

# Цэны на нерухомасць упалі да 9-гадовага мінімуму

Цана прапановы квадратнага метра ў Мінску знізілася да $1268.

Паводле статыстыкі *Realt.by* за апошні тыдзень лічба паменшала на $15. У выніку быў зафіксаваны дзевяцігадовы мінімум. Колькасць прапаноў расце, а попыт застаецца на ранейшым нізкім узроўні.

Цана прапановы адрозніваецца ад рэальнай цаны ўгодаў прыкладна на $100 за квадратны метр.




Самыя маленькія кватэры ў Мінску прадаюць ужо танней за $29 тысяч.

### Лічбы дня

# Усе пераводзяць у валюту

Па стане на 1 лютага беларусы мелі рублёвых дэпазітаў на 25 трыльёнаў рублёў. А вось валютных — на 173 трыльёны рублёў у эквіваленце.

### Сцісла

**Адпачынкі стануць карацейшымі?**

Па законе ўсім працуючым беларусам належыць 24 дні адпачынку. Але пры гэтым могуць быць заахвочвальныя адпачынкі, якія даюцца пры падпісанні кантракта — ад 1 да 5 дзён. Раней дадатковыя дні спісваліся на затраты па вытворчасці тавараў, а цяпер падатковая інспекцыя прымушае прадпрыемствы плаціць за кошт прыбытку.

**Не больш за 22 еўра і 10 кг у месяц**

Ліміты на пасылкі з-за мяжы робяцца больш жорсткімі. Пакуль што можна атрымліваць пасылкі на 200 еўра у месяц. Новыя правілы ўступяць у сілу ў сярэдзіне красавіка. Калі ліміт будзе перавышаны, то давядзецца заплаціць 30% з сумы перавышэння.

**Рэчаў з-за мяжы прапусцяць менш**

Беларусы маюць права завозіць у краіну тавары для асабістага карыстання вагой не больш за 50 кг і коштам не больш за 1500 еўра — гэта агульнае правіла Адзінай эканамічнай прасторы. Цяпер гэтая норма застанецца толькі для тых, хто ездзіць не часцей за раз на квартал. Інакш — тавару толькі на 300 еўра.

ЯМ

# Ці знявечыць новы генплан выгляд Навагрудка?

**«Нельга забудоўваць наваколлі замка хрушчоўкамі! — пратэстуе жыхар горада. — Трэба захоўваць унікальнасць Навагрудка і разбудоўваць яго толькі індывідуальнымі дамамі». На пытанне жыхара першай сталіцы ВКЛ адказваюць аўтары генплана.**

У Рэдакцыю «Нашай Нівы» прыйшоў ліст ад Змітра Солтана з Навагрудка. Ён піша, што новы генплан горада пагражае ўнікальным краявідам другой беларускай сталіцы. Праектанты не згаджаюцца: пакінуць усё як ёсць — яшчэ большая пагроза для горада, кажуць яны.

### Солтан: унікальны краявід перакрыюць «хрушчоўкі»

«Хутка знакаміты навагрудскі краявід, панарама магутнай прыроды, якая адкрываецца з Замкавай гары, можа знікнуць назаўсёды, — піша Зміцер Солтан. — Яе перакрыюць «хрушчоўкі». Гэта вынікае з новага генплана горада. Ён канчаткова не прыняты, і мы маем шанец перашкодзіць знішчэнню.

Вялікая тэрыторыя ў мінскім кірунку, за Фарным касцёлам, дзе Ягайла браў шлюб з Соф'яй Гальшанскай, за 900 метраў ад замка, практычна адразу за легендарным месцам пахавання Міндоўга...

Чыноўнікі з Навагрудскага выканкама прапануюць аддаць яе пад будаўніцтва шматпавярховага шматкватэрнага жылля, а калі па-простаму, «хрушчовак». Побач намячаецца вялікая прамзона. Адразу за зонай — могілкі. Такое вось сацыялістычнае планаванне.

У горадзе і каля яго шмат дзе можна размясціць такое сацыяльнае жыллё. Будаваць прамзоны ў горадзе — маветон.

У выпадку рэалізацыі плана горад пазбавіцца непаўторнай аўры, — працягвае Зміцер. — Колькасць турыстаў скароціцца, бо турысты сюды едуць не толькі ўбачыць замак, але і цудоўныя маляўнічыя мясціны, замкавыя краявіды, якія мала змяніліся за тысячу гадоў. Замак і яго панарама — адно цэлае».

### Чыноўнікі не могуць ці не хочуць?

«Для Навагрудка як горада, які ўваходзіць у залатое турыстычнае кола Беларусі, найлепшай і адзінай правільнай з'яўляецца не мінская мадэль, дзе адна-дзве вёскі змяшчаюцца ў некалькіх панэльных дамах, а развіццё жылых кварталаў як культурнай прасторы, кампактных малапавярховых забудоў, падтрымка прыватных дамоў сядзібнага тыпу, — піша Солтан. — Канечне, у мясцовых чыноўнікаў ёсць пара аргументаў у рукаве. Першы — гораду трэба развіццё, жыллё, праца і сацыяльныя аб'екты. Другі — у Беларусі дзейнічае закон, паводле якога нібы нельга выходзіць на сельгасугоддзі, а ў межах горада больш няма свабодных тэрыторый, акрамя гэтых. Але пару гадоў таму гарадам былі выдзеленыя землі пад прыватную катэджную забудову на былых сельскагаспадарчых землях. Значыць, у кампетэнцыі ўладаў вырашаць такія пытанні. Гэта іх праца і абавязак ездзіць у Гродна, Мінск і прасіць выдзеліць землі ў бок Бярозаўкі ці Слоніма. Іншая справа, што можа проста не хочуць?!»

У якасці ўзору дбання ўладаў пра аўтэнтычнасць забудовы Зміцер прыводзіць турэцкую гісторыю 2014 года, калі Дзяржаўная рада Турцыі пастанавіла знесці тры вежы жылога комплексу *OnaltiDokuz Residence*, якія, на думку рады, разбуралі гістарычную панараму Стамбула.

«У Навагрудка адзіны шлях — турыстычны, з разбудаванай сферай паслуг і дробнымі прыватнымі прадпрыемствамі. Навошта гораду псаваць тое, з чаго ён можа карміцца ў будучым? Навошта ствараць будучаму пакаленню праблему з вынасам «хрушчоб» і прамзоны за межы гістарычных краявідаў? Гэта ж мільёны даляраў. Зямля, наваколле, гісторыя, культура, прырода не належаць чыноўнікам. Гэта супольны здабытак нашага народа, і таму трэба яго бараніць», — падсумоўвае чытач.




Свае прапановы што да генеральнага плана Навагрудка можна даслаць да 20 лютага на электронны адрас: novogrudok_rik@mail.grodno.by, а таксама ў папяровай форме на адрас: г. Навагрудак, вул. Міцкевіча 11, Навагрудскі райвыканкам, аддзел архітэктуры і будаўніцтва. 231400



Нават краявіды ў Навагрудку дарагія беларускаму сэрцу.

### Архітэктар: будуць 2- і 3-павярховікі за 1200 метраў ад касцёла

Карэспандэнт «НН» звярнуўся па каментар да архітэктаркі, адказнай за праект — Наты Амяльчук. Яна сцвярджае, што ніводнаму генплану ў краіне не надавалася столькі ўвагі, колькі навагрудскаму. Размова са спадарыняй Натай заняла гадзіну, яна расказала пра ўсе акалічнасці складання плана забудовы.

«Ліст Солтана мы чыталі ўсім Інстытутам горадабудаўніцтва. Нават паказвалі чалавеку, адказнаму за ахоўныя зоны па ўсёй рэспубліцы, — пачала Ната. — Солтан піша, што краявід перакрыюць «хрушчоўкі». Але яны даўно не будуюцца, Хрушчова няма. І тыя страшэнныя панэлькі, што сёння ёсць у горадзе — гэта савецкая спадчына. Яны і мяне заганяюць у дэпрэсію, але я іх не будавала і не магу іх знесці, бо ў горада няма грошай, каб перасяліць людзей. І ўвогуле, у Навагрудку рэжым — нельга будаваць вышэй за пяць паверхаў. На тым месцы ў папярэднім генплане — цэлы грамадны масіў пад шматкватэрную забудову, а мы тут рэжымам пішам 2—3 паверхі. Так, у генплане мы закладаем дамы малой павярховасці, з пакатымі дахамі, якія будуць пачынацца за 1200 метраў ад касцёла. Іх мяркуецца пабудаваць да 2030 года. Мы акуратна да гэтага падышлі. Усё дэталёва абгаворвалася з Інстытутам рэканструкцыі, і каб дзе накасячылі з ахоўнымі зонамі, то не прайшлі б праверкі», — сцвярджае архітэктар.

«Я разумею, што горад адказны, асаблівы, — працягнула Ната. — Калі генплан перайшоў пад маё кіраўніцтва, то я нават паўзверх заканадаўства сабрала чатыры грамадскія абмеркаванні. Падключыла органы ўлады, давала абвесткі ў газеты, пачула ўсе прэтэнзіі і жаданні. Мне нават з Піцера нейкі прафесар па-беларуску лісты пісаў, дзе распісваў сваё бачанне.

Потым мы збіраліся і ў Мінску, у галерэі «Ў». Запрасілі журналістаў, навукоўцаў, каб кожны мог прыйсці і паўплываць, каб рашэнне не прымалася ўпотай. Мы паглядзелі мапу, нанеслі зоны аховы, усё нараджалася ў абмеркаванні. Потым Солтан пачаў пісаць мне лісты, на якія я адказвала і ўсё тлумачыла».

### Краявід ужо не чысты

Паводле архітэктаркі, забудова не парушыць выгляду горада.

«Наконт гары Міндоўга. Як да гэтага гісторыкі падыходзяць? То бок ёсць нашая каштоўнасць, якая мусіць быць бачная. З дарогі, з іншых бакоў. А што датычыць віду з самой гары, то тут нават спецыялісты мне такіх прэтэнзій не выказвалі. Вельмі добра, што ён хоча бачыць з гары поле. Але калі туды залезці і ацаніць ландшафт, то там ужо стаяць два прадпрыемствы, адзін дом 5-павярховы тырчыць, тэхнікум відаць, які закрывае краявід. Гэтая тэрыторыя ўжо не чыстая. Гара — самае высокае месца ў горадзе. І што ні будуй у горадзе, яно будзе бачна адтуль», — сказала таксама Ната і адзначыла, што пакуль турыстычная прывабнасць у горада не надта вялікая.

«Гістарычны цэнтр — плошча Леніна і прыпынак насупраць касцёла. Што гэта такое? Увесь грузавы транспарт едзе праз цэнтр! І каб захаваць гэты цэнтр, мы прапісваем у генплане першае транспартнае кола, Паштовую вуліцу мусім зрабіць пешаходнай і вывесці транспарт з цэнтра, прыбраць прыпынак, створым сцежкі для раварыстаў. Іншая праблема — павялічыць плошчу паркаў у горадзе», — дадала Ната.

### Генплан — гэта толькі прапанова

Таксама архітэктарка патлумачыла, што генплан — гэта схема стратэгічнага планавання горада, дзе прапісваецца толькі, дзе што мусіць знаходзіцца. Дакумент перадаецца гарадскім уладам, якія знаходзяць інвестараў, гатовых забудоўваць тую зямлю. Тады ўжо ствараецца дэталёвы план, дзе паказваецца, як будуць стаяць тыя дамы, а потым — праект забудовы. Гэта ўжо канкрэтна, як будуць тыя дамы выглядаць, якія будуць фасады і іншае. Таму, паводле спадарыні Наты, нашмат важней будзе пракантраляваць рэалізацыю генплана, каб замест 2- і 3-павярховых дамкоў не паўсталі пачварныя самабуды.

«Мы не чыноўнікі, мы не падпарадкоўваемся органам улады, мы проста з імі кантактуем, часта ўступаем у канфлікт. І ў горадзе настолькі складаны ландшафт, што там больш няма дзе сяліць людзей», — дадае Ната.

# Коля Лукашэнка гуляе ў юнацкім хакейным турніры пад нумарам 1 і ў чорным шлеме





Малодшы сын кіраўніка Беларусі Мікалай Лукашэнка бярэ ўдзел у гарадскім этапе спаборніцтваў «Залатая шайба». Ён выступае ў складзе моладзевай каманды Цэнтральнага раёна Мінска, паведамляе тэлеканал СТВ.

15 лютага ў Мінску стартаваў гарадскі этап спаборніцтваў «Залатая шайба». Галоўная ўмова знакамітага юнацкага турніру — удзел толькі аматарскіх моладзевых каманд.

«Адкрылі серыю фінальных матчаў зборныя Цэнтральнага і Савецкага раёнаў. У складзе першай гуляў Мікалай Лукашэнка — на яго рахунку адразу некалькі шайбаў», — гаворыцца ў тэлесюжэце.

Таксама адзначаецца, што «Залатая шайба» — самы масавы хакейны рух для дзяцей і падлеткаў у краіне.

## Мядзведзі ў Беларусі пачалі выходзіць са спячкі раней, чым звычайна



«Сёлета бурыя мядзведзі прачнуліся прыкладна на месяц раней», — расказаў намеснік дырэктара па навуковай рабоце Бярэзінскага запаведніка Валерый Іўковіч.

«Хутчэй за ўсё, праз адлігу адбылося падтапленне бярлогаў у нізіннай мясцовасці, і жывёлы былі вымушаныя падняцца», — дадаў намеснік дырэктара па навукова-даследчай працы.

Усяго ў Бярэзінскім запаведніку жывуць каля 35 бурых мядзведзяў. У апошнія гады іх колькасць расце.

СГ

## Студэнтка з маці завербавала ў прастытуткі 70 дзяўчат

Упраўленнем Следчага камітэта па Мінску распачата крымінальная справа ў дачыненні да 22-гадовай жыхаркі Мінска, якая завербавала ў заняткі прастытуцыяй больш за 70 дзяўчат, паведамляе прэс-служба Следчага камітэта.

Следчымі ў цесным узаемадзеянні з аператыўнымі супрацоўнікамі Міністэрства ўнутраных спраў выяўлена, што падазраваная, студэнтка адной з мінскіх ВНУ, пры дапамозе маці цягам апошніх двух гадоў шукала з дапамогай інтэрнэт-



дадаткаў маладых дзяўчат, гатовых аказваць інтымныя паслугі за мяжой, усе яны працавалі на тэрыторыі Украіны, Расіі і Беларусі.

Пасля атрыманай згоды анкеты з фатаграфіямі дзяўчат і апісаннем прапанаваных паслуг размяшчаліся на розных інтэрнэт-рэсурсах, з дапамогай якіх патэнцыйныя кліенты выходзілі на сувязь з жыхаркай Мінска.

Пасля таго, як кліент і падазраваная дамаўляліся аб цане, дзяўчаты выязджалі ў Стамбул для аказання інтымных паслуг.

Частка грошай ад заняткаў прастытуцыяй пералічвалася дзяўчатамі з дапамогай міжнародных плацежных сістэм студэнтцы і яе маці. Даход, атрыманы ад арганізацыі прастытуцыі і склаў больш за 300 тысяч даляраў.

Падазраваныя затрыманыя. У месцах іх пражывання следчымі праведзеныя ператрусы, падчас якіх выяўлена і канфіскавана больш за 200 тысяч даляраў. Акрамя таго, накладзены арышт на іх банкаўскія рахункі на суму звыш 130 тысяч даляраў.

Расследаванне працягваецца.

Дурасці

# Мядовы азадак, або Самыя ідыёцкія спосабы прыцягнуць каханне

Завялі той Дзень святога Валянціна. Прыдумляюць адно аднаму падарункі. А што рабіць, калі адзінокі? Дастаткова ўпісаць у інтэрнэт-пошукавіку «Рытуалы прыцягнення кахання» — і вуаля! Усёведны гугл падкіне тысячы парадаў, што ды як трэба рабіць. Вось некалькі самых ідыёцкіх прыкладаў з інтэрнэт-старонак і жаночых форумаў.

### Мазаць мёдам азадак

Жанчына, якая хоча выйсці замуж, на працягу месяца кожны дзень павінна мазаць азадак мёдам і выстаўляць у акно на пяць хвілін, прыгаворваючы: «Як пчолы на мёд злятаюцца, так няхай мужыкі на мяне злятаюцца». «Нягледзячы на ўсю абсурднасць працэсу, вынік сябе апраўдае. Пасля рытуалу жанчыны выходзяць замуж нават праз некалькі тыдняў», — пераконвае хтосьці ў каментарах.

### Чырвоныя трусікі на фортцы

Дзяўчыне неабходна купіць прыгожыя чырвоныя трусы (можна з сэрцайкамі, бусінкамі або кветачкамі) і павесіць на фортку. Найлепш — ад вуліцы.



Перыядычна іх трэба адзяваць, мыць і зноў вешаць сушыцца. Вельмі дапамагае — адзець трусы на галаву і станцаваць пад вядатную музыку! Гэта правераная тэхніка! Нават даўно забытае каханне прачынаецца! Для знаёмства праз інтэрнэт: адзець трусы на манітор і ўключыць інтэрнэт! Усё! Вынік гарантаваны!

### Сэрцы ёдам

Таксама чароўная тэхніка! На азадку трэба намаляваць некалькі сэрцайкаў, можна нават з сетачкай, каб каханы хутчэй папаўся!

### Напстрыкаць

На вуліцы патрабуецца пстрыкаць каля незнаёмых сімпатычных мужчын. Напстрыкаць трэба не менш за дзесяць чалавек! Прытым не пстрыкаць незаўважна, а падысці і з сур'ёзным выглядам спытаць: «Мужчына (або жанчына), Вы дазволіце мне каля Вас пстрыкнуць?» У выпадку, калі мужчына пагодзіцца, трэба зграбна пстрыкнуць і сказаць: «Віншую! Цяпер нам абавязкова пашанцуе ў каханні!» Усіх «асцярожных» трэба адпускаць. Лічацца толькі добраахвотныя пстрычкі. Таксама запаміняйце, што скажуць пстрыкнутыя. Гэта важна!

### З хрэнам. Для дамаў

Спатрэбіцца вялікі корань хрэна, 2 яйкі ад кіндар-сюрпрыза і ўпрыгожванні для хрэна. Корань упрыгожваем, прывязваем кіндары. Мачаем у ваду і пырск на сябе, прыгаворваючы:

Храновым духам акрапляю,
Жыцця царыцай прызначаю,
Жаданні ўсе асемяняю,
Жыць, як ты хочаш, дазваляю.
І хрэнам па цемечку!

### Калі на балкон заляцеў нож

Нож — да шчаслівай сустрэчы з нарачоным! Калі ён заляцеў на балкон, яго неабходна паліць дажджавой вадой, затым вытрымаць некалькі дзён на свежым паветры. Раніцай да ўзыходу сонца асцярожна ўзяць яго правай рукой, завярнуць у чырвоную шаўковую тканіну і занесці яго ў дом. Пераступаць парог ТОЛЬКІ правай нагой! Пасля нож пакласці на сподачак, запаліць па баках дзве свечкі, абліць салодкім вінам. Цяпер гэты нож становіцца цудадзейным!

Калі нож не жадае сам залятаць на ваш гаўбец, можна падкінуць яго ў любое зручнае для правядзення рытуалу месца.

Гэты артыкул не з'яўляецца інструкцыяй, як прывабіць сваё каханне, але спробай паказаць, да якога абсурду нас (асабліва жанчын) даводзіць самота і адчай.

А кахання вам — шчаслівага, і не толькі ў Дзень закаханых!

Кася Ляўдацкая

Меркаванне

# Няма нічога страшнага, калі мы для рускіх «Белоруссия»



Калі Беларусь абвясціла незалежнасць, паўстала пытанне: як называць новую дзяржаву ў іншых мовах? Да 1991 года назва краіны была «Белоруссия» ў расейскай мове. У іншых мовах — калька словазлучэння «Белая Расея».

19 верасня 1991 года быў прыняты Закон «Аб назве Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». Вярхоўны Савет пастанавіў: «Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку ў далейшым называць «Рэспубліка Беларусь», а ў скарочаных і састаўных назвах «Беларусь». Устанавіць, што гэтыя назвы транслітаруюцца на іншыя мовы ў адпаведнасці з беларускім гучаннем».

Аднак расейская мова ў Беларусі — адна з дзяржаўных. У выніку мы маем сітуацыю рознага наймення нашай дзяржавы на расейскай мове ў Беларусі і Расеі. Гэта часта выклікае спрэчкі паміж жыхарамі Расеі і Беларусі, бо большасць жыхароў Беларусі ўспрымае назву «Белоруссия» як праяву мяккага шавінізму.

Але для большасці расейцаў Беларусь у любым выпадку будзе асацыявацца з Расеяй. І няважна, як яны будуць называць нашу краіну: «Беларусь» альбо «Белоруссия». Не сакрэт, што для большай часткі расейскага грамадства сам факт незалежнасці Беларусі ўспрымаецца як недарэчнасць. Цяжка ўспрымаць Беларусь як асобную незалежную краіну, калі няма нармальнай дзяржаўнай мяжы, моўнага бар'ера, калі Беларусь знаходзіцца ў расейскай інфармацыйнай прасторы. Нават калі расейцы будуць называць нашу краіну «Беларусь», а не «Белоруссия», гэта ніяк не паўплывае на іх светапогляд.

Большасць беларусаў лічыць, што ўжыванне формы «Беларусь» у расейскай мове будзе спрыяць росту нацыянальнай самасвядомасці, а расейцы будуць нас больш паважаць. Аднак атрымліваецца інакш. Калі мы хочам, каб расейцы называлі нас «Беларусь», мы набліжаем іх да сябе, ставімся да іх як да «сваіх», а не як да «чужых». Мы хочам, каб і беларусы, і расейцы называлі нашую дзяржаву адным словам, тым самым мы пазбаўляем сябе важнай часткі сваёй ідэнтычнасці — нацыянальнай назвы сваёй дзяржавы. Калі мы тут ужываем форму «Беларусь», а расейцы ўжываюць форму «Белоруссия» — гэта ў пэўнай ступені мяжа. Калі нацыя пачынае фармавацца і сасплівацца, яна павінна мець уласную прастору, адмежаваную ад тых, з кім доўгі час не было мяжы ў самаідэнтыфікацыі. Калі беларус просіць расейца называць яго краіну «Беларусь», а не «Белоруссия», ён гэтыя межы знішчае.

Нацыянальную самасвядомасць трэба развіваць разам з пашырэннем выкарыстання беларускай мовы, а не са зменай моўных правіл чужой мовы. Бо калі беларусы ствараюць уласны рэгіянальны стандарт, уласную «беларускую рускую мову» — адбываецца «прыватызацыя» расейскай мовы беларусамі. Тым самым беларусы кажуць: руская мова — таксама наша мова. А гэта можа канчаткова развязаць беларускую мову.

Наша грамадства павінна саспець да таго, каб нам было ўсё роўна, хто і як нас называе.

Максім Маханькоў

# Нясвіжскі след Скарлет Ёхансан

Яе продак — шавец Барух Ходаш з вуліцы Глухой.

Той, хто цікавіцца сучасным папулярным кіно, не можа не ведаць Скарлет Ёхансан. З дзевяці гадоў пад прыцэлам кінакамер, зорка фільмаў Вудзі Алена і Крыстафера Нолана, шматразовая намінантка на «Залаты глобус»... Да таго ж — драматычная актрыса на брадвейскай сцэне, а таксама поп-спявачка. Ёхансан — сэкс-сімвал сучаснага Галівуда, часопіс *Esquire* у 2006 і 2013 абіраў Скарлет самай прыгожай жанчынай свету.

У яе жылах злілася нардычная дацкая кроў вікінгаў па мячы і габрэяў-ашкеназаў па кудзелі. У інтэрв'ю Ёхансан згадвала, што яе габрэйскія продкі паходзяць з-пад нейкага Мінска, які ці то ў Польшчы, ці то ў Расіі. «Было б выдатна туды з'ездзіць, але мне не хапае на гэта часу», — заявіла актрыса на прэм'еры фільма «Мсціўцы». Аднак насамрэч ехаць ёй трэба не ў Мінск. Напрацоўкі па габрэйскай генеалогіі сведчаць, што яе прадзядуля адправіўся заваёўваць Амерыку са славутага Нясвіжа.

У пачатку XX ст. у Нясвіжы, горадзе Слуцкага павета, жыў Барух Ходаш. Ён меў уласны драўляны дамок на вуліцы Шпітальнай (якая ў савецкі час стане вуліцай Пушкіна). Вуліца хоць і не цэнтральная, але выгадная: побач галоўны «праспект» Нясвіжа з крамамі і кавярнямі ды разнастайнай публікай, з іншага боку — цэнтр габрэйскага жыцця, «Школьны двор» з пяццю сінагогамі. У Нясвіжы жылі і іншыя Ходашы, але ці былі яны сваякамі — сказаць цяжка: прозвішча «Ходаш», аналагічнае нашаму «Новік», не было рэдкім.

Пазней Барух з нейкіх прычынаў пераехаў: у 1920-я ў нясвіжскіх даведніках згадваецца шавец Б.Ходаш, у якога замаўлялі чаравікі нясвіжскія паненкі. Яго хату з майстэрняй можна было знайсці на вуліцы Глухой (цяпер носіць гордае імя Францішка Скарыны). Назва добра характарызуе гэтую і сёння ціхую вулачку, размешчаную, аднак, за пару дзясяткаў крокаў ад Рынкавай плошчы.

Цяжка сказаць, ці квітнеў яго бізнэс, бо ў маленькім Нясвіжы шавец Ходаш меў з дзясятак канкурэнтаў. Так ці інакш, сын Баруха Іцхак зрабіў па прыкладзе многіх выхадцаў з небагатых габрэйскіх шматдзетных сем'яў таго часу — выправіўся шукаць шчасця за акіян, у далёкую казачную Амерыку.

Іцхак Ходаш нарадзіўся ў 1898-м, хутчэй за ўсё, яшчэ на Шпітальнай. За польскім часам ён пакідае радзіму разам са сваёй жонкай Ханнай.

У той час найбольш адважныя габрэі ўжо выпраўляліся на зямлю продкаў — у Палесціну. Ехалі туды і землякі Ходаша: перасяленцы з Нясвіжа і Ляхавіч нават заснавалі сваё паселішча — кібуц Дганія-Бэт у Галілеі. Аднак пераезд туды вымагаў падрыхтоўкі, гатоўнасці да цяжкай працы на скупой зямлі, напружанага жыцця ў варожым арабскім атачэнні. Не дзіва, што Іцхак выбраў больш традыцыйны кірунак, якім ужо скарысталіся тысячы выхадцаў з Беларусі самага рознага паходжання.


Скарлет Ёхансан з бабуляй Дораці падчас атрымання зоркі на Алеі славы ў Галівудзе. 2012.

Маладая пара пасялілася ў Нью-Ёрку, у Брукліне. Трэба адзначыць, у той час у Нью-Ёрку атабарылася нямала выхадцаў з Нясвіжа, якія нават мелі свае таварыствы. Як гэта часта бывала, муж і жонка пачалі новае жыццё пад амерыканізаванымі імёнамі: Іцхак назваўся Ізідорам, а Ханна — Аннай. Аднак амерыканцамі яны так да канца і не сталі: дома гаварылі, як і ў Нясвіжы, на ідыш, нават дзецям давялося засвойваць англійскую мову ад сяброў.

Ізідор уладкаваўся рабочым на гарбарную вытворчасць, дзе вылучыўся як прафсаюзны дзеяч. У суровых рэаліях капіталізму амерыканскія прафсаюзы займаліся зусім не раздачамі пуцёвак — гэта была цяжкая і нервовая дзейнасць, часта ў канфлікце з працадаўцамі і дзяржаўнымі органамі, што падазравалі прафсаюзы (і часта небеспадстаўна) у супрацы з СССР.

Неўзабаве ў Ходашаў нарадзілася іх дачка — Дораці, за ёй народзяцца яшчэ сястра і брат. Артыстычная Дораці з дзяцінства марыла стаць актрысай. Яна была зоркай школьных і студэнцкіх тэатральных выступленняў, аднак яе ўзыход быў перарваны суровымі жыццёвымі абставінамі. Цяжка хварэе і памірае ў 1945 тата. Каб дапамагчы маці з малодшымі дзецьмі, Дораці забывае пра свае мары і ўладкавалася на завод металургічных вырабаў, дзе працавала да замужжа. Аднак цвёрды эмігранцкі характар узяў сваё: пасля замужжа і нараджэння дзіцяці Дораці (ужо не Ходаш, а Слоан) працягнула адукацыю, вывучала псіхалогію і педагогіку, а пасля працавала настаўніцай. І тут дачку нясвіжцаў, як і ўсё амерыканскае грамадства 1960-х, ахапіла прага перамен.

Прыклад бацькі — прафсаюзнага барацьбіта, а таксама уплыў пашыранага сярод тагачаснай заходняй моладзі левага рамантызму паклікалі Дораці змяніць жыццё. Яна вырашае пажыць у Даніі — яе зацікавіла сацыяльная мадэль краіны. У Данію Дораці параязджае з сямнаццацігадовай дачкой Меланi. І Мелані знаходзіць тут свой лёс, у асобе архітэктара Карстэна Ёхансана, будучага мужа. Амерыканкі так і не атрымалі дацкага дазволу на працу, Карстэн і Мелані, а пасля і хворая Дораці, вяртаюцца ў Нью-Ёрк. Тут з'явіліся на свет іх чацвёра дзяцей, сярод якіх — народжаная ў 1984 знакамітая Скарлет, якая з размахам рэалізуе бабуліну мару аб акцёрскай кар'еры.

Што ж сталася з нясвіжскімі продкамі і сваякамі знакамітай актрысы? У спісах ахвяр Халакосту ў Нясвіжы Баруха Ходаша няма (імаверна, не дажыў стары шавец да жахаў Другой сусветнай), але іншыя нясвіжскія Ходашы (яго дзеці і ўнукі?) загінулі ад рук нацыстаў. Цяжка сказаць, ці падчас масакры восенню 1941-га, калі ў адзін дзень у радзівілаўскім парку і на сноўскай дарозе было забіта больш за 3000 нясвіжскіх габрэяў, ці бралі ўдзел у адчайнай спробе паўстання ў Нясвіжскім гета ў ліпені 1942-га. Тымі трагічнымі падзеямі скончылася чатырохсотгадовая гісторыя габрэйскага Нясвіжа, аб якой нагадваюць адно нешматлікія мемарыяльныя знакі, старыя хаты і камяніцы, якіх застаецца ўсё меней, ды рэдкія госці — нашчадкі эмігрантаў, якіх некалі расцерушыла па ўсім свеце...

**Віталь Быль, Нясвіж**



## Англійскі «Сандэрленд» выгнаў футбаліста, які прызнаўся, што спакушаў 15-гадовую

Паўабаронцу «Сандэрленда» Адама Джонсана выгналі з каманды пасля таго, як спартсмен прызнаўся ў спакушэнні непаўналетняй дзяўчыны.

Следства абвінавачвае Джонсана ва ўваходжанні ў давер да непаўналетняй з мэтай яе разбэшчвання.

Джонсан прызнаў, што спакушаў 15-гадовую дзяўчыну праз сацыяльныя сеткі і цалаваўся з ёй. У той жа час ён адмаўляе наяўнасць сэксуальнага кантакту з ёй і яшчэ з дзвюма дзяўчатамі-падлеткамі.

У заяве клуба сказана, што кантракт скасоўваецца неадкладна. Таксама паўабаронца страціў рэкламны кантракт са спартовым гігантам *Adidas*.

**СГ**

## Расійскі акцёр Уладзімір Зельдзін адзначыў 101-ы дзень народзінаў на сцэне

Расійскі акцёр Уладзімір Зельдзін, якому ў мінулую сераду споўніўся 101 год, традыцыйна адзначае свой дзень нараджэння на сцэне. «Я сыграю ў спектаклі «Танцы з настаўнікам», які адмыслова для мяне паставіў рэжысёр Юлій Гусман да майго 95-годдзя», — кажа ён.



Гэта рэпертуарны спектакль Тэатра расійскай арміі, у якім Зельдзін грае ўжо 71 год.

У тэатры арміі Зельдзін выконвае ролі ў трох спектаклях. Гэта пастаноўкі «Даўным-даўно», «Чалавек з Ламанчы» і «Танцы з настаўнікам».

Таксама акцёр заняты ў спектаклі «Дзядзечкаў сон» у тэатры «Модернъ».

Уладзімір Міхайлавіч Зельдзін з'яўляецца найстарэйшым з народных артыстаў СССР і найстарэйшым у свеце акцёрам, які грае на сцэне.

Ён нарадзіўся ў 1915 годзе, яшчэ ў царскай Расіі, у сям'і музыка і настаўніцы. Яго дзяцінства і юнацтва прайшлі ў гады рэвалюцыі і НЭПу, ён перажыў Другую сусветную вайну, адлігу, застой, перабудову.

**Бі-бі-сі**

## Легендарны футбаліст Анатоль Ільін памёр на 85-м годзе жыцця

Легендарны футбаліст маскоўскага «Спартака» і алімпійскі чэмпіён у складзе зборнай СССР Анатоль Ільін памёр ва ўзросце 84 гадоў. Пра гэта паведаміў спартакаўскі ветэран Яўген Лоўчаў.

Ільін гуляў за «Спартак» большую частку кар'еры прафесійнага футбаліста (1949—1962 гады). У складзе чырвона-белых форвард пяць разоў станавіўся чэмпіёнам СССР (1952, 1953, 1956, 1958, 1962), па два разы выйграваў срэбра (1954, 1955) і бронзу турніру (1957, 1961), таксама два разы станавіўся ўладальнікам Кубка СССР (1950, 1958). У складзе зборнай СССР Ільін выйграваў золата Алімпійскіх гульняў—1956, забіўшы вырашальны гол у браму зборнай Югаславіі. Ён таксама стаў аўтарам першага гола ў гісторыі кубкаў і чэмпіянатаў Еўропы, забіўшы мяч на 4-й хвіліне ў вароты зборнай Венгрыі.



Ільін з'яўляўся кавалерам ордэна «Знак Пашаны», а таксама кавалерам ордэна Дружбы.

**БелТА**

# Міністр адукацыі з разумным тварам. Ды толькі хто яго падтрымае?

Нарэшце з'явіўся міністр адукацыі з разумным выразам твару і добрымі намерамі рэфармавання нашай выродлівай адукацыі. Ды толькі хто яго падтрымае? Адміністрацыя школ? Нашы троечнікі моцна трымаюць рубяжы ўсяго, што паспелі накапіць па заняволенні настаўнікаў.

Выкараніць паператворчасць? Дзе ж там!

Марнуем паперу кілаграмамі, ды яшчэ і дублюем тое ж самае ў электронным варыянце, каб паказаць, якія мы «прасунутыя».

І ўсё застанецца па-ранейшаму: распранання «дзетак» у гардэробе. Дзеткі — ад 186 см да 2 метраў. Усе — члены БРСМ. Вывад у сталовую. Кармленне. Апрананне ў гардэробе. Вывад дадому.

І ў туалеты водзім, каб не курылі, каб петарды ва ўнітаз не кідалі, каб у заклад не забівалі рулоны туалетнай паперы ў трубы. «Заб'е — не заб'е?»

Манім з 6 раніцы да 12 ночы: дома, у школе, на ТБ, у прэсе. Манім адно аднаму і сабе.

Рэформы? Адпішамся! Адбрэшамся. Адрапартуем. У чарговы раз. Пералічым усіх сваіх геніяў, пераможцаў над усімі ва ўсім свеце. Успомнім Гандурас і Данбас, дзе ўсё яшчэ горш. Праспяваем оду — усяму народу: «Вся страна сіл полна, дальше всех пойдёт она!» Ужо прыйшла… Нашто нейкія там рэформы!? Нашым начальнікам жылося добра раней, выдатна жывецца цяпер, а жыць яшчэ лепей яны будуць у недалёкай будучыні.

Будзем рабіць выгляд самай спартыўнай нацыі, душачыся ў транспарце з вучнямі, вяртаючыся з чарговага хакея ў чарговай арэне. І на ўсе пытанні сацапытанняў адказваць з жыццярадаснай усмешкай блазнаў: усім задаволеныя, усе пагалоўна шчаслівыя, «гэта наш выбар», нам зайздросцяць усе. А чаму б і не?

Мне падабаецца ўсё: надвор'е, прырода, ахова здароўя, адукацыя, пенсійныя рэформы, апарат МУС, міністр гэтага апарата — бравы камісар без пыльнага шлема. Падабаюцца нашы аўтобусы, тралейбусы, жывёлагадоўля, ЖЭСы, турмы — усё!

Паспрабуй сказаць, што штосьці не так: «Не падабаецца — з'язджайце!» — навучыліся біць па апанентах.

Адкажу кожнаму і ўсім паасобку. Тут усё маё, і я адсюль родам! І не вам, камісары НКВД, у шлемах і без іншых, указваць мне, дзе жыць і як жыць! Настаўнік павінен быць Настаўнікам, а не служкам і рабом. Вось на гэта і трэба накіраваць усе рэформы.

**Таццяна Карэліна, Мінск**

# Справа Юркойця: чакаць не выпадае

Чалавечае жыццё кароткае, яшчэ карацейшая людская памяць. Даследчыкі кажуць, што гістарычная памяць простага люду сягала заўсёды толькі некалькіх пакаленняў — «унук-бацька-дзед». Далей ішлі катэгорыі: казка — легенда — забыццё.

Да эпохі масавага друку ўсе нашыя перамогі пад Грунвальдам, Воршай і Сінімі Водамі захоўвалі ў памяці толькі летапісы, хронікі ды прадстаўнікі вышэйшых станаў. Захавальнікамі памяці былі адзінкі: з шляхты, святарства, людзей навукі — нацыянальная эліта. Вынішчэнне беларускасці цягам апошняга стагоддзя звяло амаль на нішто і тыя парасткі сведамасці — бо без знаку зніклі і шляхта, і святарства, і ўвесь цвет нацыянальнай інтэлігенцыі.



У такіх варунках асабліва яскравымі асобамі паўстаюць тыя нямногія, хто адчуў пакліканне да беларускасці насуперак нашай рэчаіснасці. Абсалютная большасць з іх застаецца невядомай шырокаму свету. Гэта настаўнікі, краязнаўцы, работнікі маленькіх забытых Богам музейчыкаў, кіраўнікі мастацкіх гурткоў …

Адным з такіх пакліканых у свой час стаўся і Алесь Юркойць — мытнік, які рабіў вакол сябе Беларусь… У апошні час выйшаў шэраг матэрыялаў з пералікам яго немалых заслуг, але я ўзгадаю толькі адну яго справу.

Апошнія гады Алесь быў апантаны ідэяй належным чынам адсвяткаваць 150-я ўгодкі паўстання Каліноўскага. Тое, што дзяржава не збіралася гэтага рабіць, а нацыянальная інтэлігенцыя, як заўсёды, пусціла ўвесь запал на абмеркаванне, яго не засмучала — Алесь меў свой план. Быў падрыхтаваны двухдзённы летнік-канцэрт на пляцоўцы адпачынку ля возера Кайміна, што пад Астраўцом. Былі запрошаныя дзясяткі ўдзельнікаў: музыкі і літаратары, рыцарскія клубы і мастакі, фактычна былі згодныя і мясцовыя ўлады… Імпрэза мелася стаць самай значнай падзеяй у маштабах краіны з гэтай нагоды. Але не сталася: за пару дзён да пачатку нервы ў раённага начальства не вытрымалі і дазвол быў адкліканы. На месцы святкавання з'явіліся патрулі міліцыі, што пільна сачылі за ваколіцамі ды запісвалі нумары падазроных машынаў… Расчараванне было вялікім. Але ў Юркойця меўся яшчэ адзін элемент праграмы — помнік паўстанцам!

У глухім кутку паўстаў абеліск, што зрабіў бы гонар і Вільні, і Мінску — велічны крыж-меч! З надпісам кірыліцаю і лацінкаю: «Каго любіш? Люблю Беларусь! То ўзаемна!»

Цяпер няўрымслівага мытніка далучылі да бруднай карупцыйнай справы… Дагэтуль не вырашаны лёс помніка. Не вырашаны і лёс яго стваральніка — ужо год ён знаходзіцца ў СІЗА на Валадарскага.

Я ўпэўнены, што ён і надалей бы застаўся ў шэрагах невядомых, робячы сваю справу, каб не патрапіў пад руку нашай неразборлівай і бязлітаснай феміды. Чакаць не выпадае — толькі грамадская ўвага да справы можа змяніць сітуацыю, інакш на нашым полі паменее яшчэ на аднаго ваяра, што варты цэлага войска.

**Усевалад Сцебурака, Мінск**

Паэтычным радком

# Адкрыццё

Скуголіць народ: «Эх, палучку б цяпер, як раней!»
«О, праўда твая! Яшчэ летась плацілі нямала!»
З прытоеным жалем я слухаю гэтых людзей:
Пусціла туман ім у вочы рэжыму навала...

Кажу, зразумеўшы, што гэта, лічы, адкрыццё
Для тых, хто жадае вярнуцца ў нядаўнюю «казку»:
Ты лёгкае рабства пабачыў, мой бедны народ, — не жыццё;
Ты бачыў не шчасце, а сытых драпежнікаў ласку...

**Рыгор Шэрда**

Каб не ўмёрлі
як дыназаўры

ДніРоднайМовы
разам з Арт Сядзібай

19 лютага 17:00–22:00 прастора Мёд, Талбухіна, 4, 3 паверх ля бару «ДК» — гульнятэка, музыка і спевы, вялікі паэтычны АРТ-ДЖЭМ. Уваход вольны
21 — месца і час паведамім пазней — спектакль Браніслаў

#НАШАМОВА

# «Улица Будавников» — гэта смешна?




На мінулым тыдні твітар «Нашай Нівы» апублікаваў пост з прэтэнзіяй на жарт. Да фотаздымка шыльды «улица Будавников» быў зьмешчаны камэнтар: «Беларуская мова — самая багатая ў свеце, а трасянка — яшчэ багачэ!»

Ці сапраўды маем тут справу з трасянкай? Здаецца, ніхто ж не гаворыць пра трасянку, калі прозвішча «Кузнецов» пабеларуску пішам «Кузняцоў», а беларускае «Бусловіч» па-руску «Буслович», але не «Аистов». Так, бо гэта ўласныя імёны і яны не перакладаюцца. Гэтак жа і з назвамі вуліц.

Парадак напісання беларускіх тапонімаў па-руску замацаваны на заканадаўчым узроўні. Закон «Аб назвах геаграфічных аб'ектаў» кажа адназначна: «У Рэспубліцы Беларусь назвы геаграфічным аб'ектам прысвойваюцца на беларускай мове, з якой спосабам транслітарацыі перадаюцца на рускую мову. Назва геаграфічнага аб'екта падлягае дзяржаўнаму ўліку на беларускай і рускай мовах» (арт.17, ч.1).

Магчыма, камусьці транслітарацыя з беларускай на рускую нязвыклая. Бярэцца гэта з досведу савецкага часу. У адрозненне ад нашых паўночных або паўднёвых суседзяў, дзе і пры СССР назвы вуліцаў на рускую транслітараваліся (напрыклад, «ул.Пионерю» ў Вільні, «ул. Жовтневая» ў Кіеве), назвы вуліц у БССР зьбольшага перакладаліся. Тады і паўзнікалі пары назваў «Строителей»/«Будаўнікоў», «Октябрьская»/«Кастрычніцкая» і г.д.

У часы незалежнай Беларусі нацыянальная тапаніміка стала паволі прыводзіцца ў парадак. Так, у беларускіх гарадах з'явіліся вуліцы, якія па-руску абавязкова гучаць як «Будавников», «Першемайская», «Чигуночная» (Маладзечна), «Мытная», «Сяброўская» (Брэст) і г.д.

За час існавання закона было некалькі спробаў змяніць цытаваны вышэй артыкул 17 закона. У 2013 годзе прапаноўвалася ўвесці пераклад назваў з беларускай на рускую (г.зн. вярнуцца да савецкай практыкі). Дарэчы, тады менавіта на старонках «НН» прафесар Валянціна Лемцюгова даводзіла хібнасць такога падыходу. Змены ўвесці не ўдалося, але літаральна праз год адбыўся новы «падкоп» пад норму, калі прапаноўвалася дапоўніць артыкул магчымасцю надаваць назвы па-руску з іх транслітарацыяй на беларускую. Тады партал *Tut.by* выказаў меркаванне, што ініцыятыва змен у заканадаўства можа ісці з Мінгарвыканкама, «ківаючы» хіба што на вядомага сваёй пазіцыяй чыноўніка Ігара Карпенку.

На сённяшні дзень норма закона застаецца старой. Але на чарнасоценных сайтах, што растуць як грыбы пасля дажджу, ужо можна сустрэць заклік беларускім уладам аб «уничтожении русской топонимики Белоруссии». Падаецца, артыкул 17 закона чакае яшчэ не адна атака. У гэтым святле жарт «НН» у лепшым выпадку можна назваць няўдалым і безадказным.

**Сяргей Кузняцоў, юрыст, палітолаг, Варшава**

## Прыватныя абвесткі

**Віншуем Вераніку і Міхася Лебедзяў** з нараджэннем шостага дзіцяці.

**Сябры**

**Віншую Віталя Хоміча з 25-годдзем!** Жадаю шчасця, здароўя, кахання, здзяйснення мар і задум, поспехаў у працы.

**Аляксей**

**Карэспандэнтка «Нашай Нівы» шукае кватэру.** Мы, маладая пара, шукаем двухпакаёвую кватэру каля метро ў межах першага кола да 250 уа. Не маем кепскіх звычак, стала працуем. +375333135014 (МТС), irinagennadievvna@gmail.com

## Удакладненне

У «НН» №6 у артыкуле «Што такое таксі Uber і як на ім зарабляць» (ст. 2) замест «Сэрвіс забірае ад кожнай паездкі 75%...» трэба чытаць «Сэрвіс забірае ад кожнай паездкі 25%...».

**Змяшчайце рэкламу і абвесткі ў газеце і на сайце NN.BY!**

Гнуткія зніжкі для прыватных асоб і прадпрыемстваў. Вялізны эфект ад рэкламы на сайце! 5 мільёнаў праглядаў старонак за месяц! Магчымасць селектыўнага паказу банераў.

**Тэлефон (017) 284-73-29, nn@nn.by**

# На Гродзеншчыне 43 школьнікі атруціліся невядома чым

Гэта адбылося ў аграгарадку Рацічы.

Пасля 12 гадзіны 11 лютага ў хуткую пасыпаліся званкі з Рацічкай школы — некалькі дзясяткаў вучняў раптам адчулі сябе дрэнна.

На месца здарэння адразу выехалі аўтамабілі хімічнай і радыяцыйнай абароны, ратавальнікі-медыкі і ратавальнікі-хімікі. Таксама былі прыцягнутыя спецыялісты газавай службы Гродна і абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя. Па інфармацыі гродзенскіх СМІ, у школу былі накіраваныя аж восем брыгад хуткай дапамогі.

«Высветлілася, што ў дзяцей, якія займаліся на другім паверсе, адбылося рэзкае пагаршэнне здароўя (галавакружэнне, млоснасць, ваніты, павышэнне тэмпературы і ціску). Праведзеныя замеры паветра на ўтрыманне шэрагу хімічных рэчываў паказалі, што небяспечнай канцэнтрацыі няма, радыяцыйны фон не перавышаны», — распавялі ў МНС.




Дзеці былі рознага веку, ад 7 да 17 гадоў. Колькасць пацярпелых павялічвалася паступова.

«Па стане на раніцу 12 лютага ў гарадзенскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы знаходзілася 43 дзіцяці. Адзін — у аддзяленні анестэзіялогіі і рэанімацыі, стан быў сярэдняй цяжкасці, стабільны. У 42 дзяцей стан быў адносна здавальняючы», — расказала Вольга Шульпіна, прэс-сакратарка Мінздароўя.

Папярэдні дыягназ застаўся тым самым — атручэнне невядомым рэчывам. З Мінска ў Гродна выехалі таксіколаг, дзіцячы анестэзіёлаг-рэаніматолаг, дзіцячы інфекцыяніст і неўролаг на чале з намеснікам міністра аховы здароўя Ігарам Ласіцкім.

Спецыялісты Цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя таксама зрабілі ў школе замеры на наяўнасць шкодных рэчываў. Папярэдне лекары разглядалі версію харчовага атручвання, але пазней з'явілася і іншая, звязаная з працай школьнай кацельні. Затым медыкі вярнуліся да меркавання, што ўсё ж менавіта харчовае атручванне стала прычынай масавага нядужання.

Праўда, у школе варыянт з харчовым атручваннем назвалі малаверагодным: пацярпелі і тыя вучні, што яшчэ не паспелі наведаць сталоўку ў той дзень.

Таксама распачатая крымінальная справа па факце службовай халатнасці. Яна знаходзіцца пад асабістым кантролем старшыні Следчага камітэта, паведаміла афіцыйны прадстаўнік СК Юлія Ганчарова.

Школа будзе зачыненая да канца расследавання. Дзеці працягнуць заняткі ў іншай навучальнай установе.

Следчыя праверылі нават суседнія сельгаспрадпрыемствы. Там заявілі, што ніякіх работ на палях не праводзілі нават восенню і ўцечкі хімікатаў быць не магло.

Таксама ўзятыя пробы паветра ў будынку школы і вакол яе, дасьледаваны грунт, на паверхах разабраная падлога — на выпадак калі пад ёй разлітая ртуць. Але ніводная з выпадковых следчымі версій пакуль не пацвердзілася. Аналізы, узятыя ў дзяцей, не паказалі ўздзеяння на іх арганізмы газу або наркотыкаў.

Усім пацярпелым пастаўлены папярэдні дыягназ «атручэнне няяснай этыялогіі». Усе школьнікі выпісаныя з бальніцы.

УШ

## Прызначылі дату суда над акцёрам-купалаўцам

Працэс пачнецца 23 лютага а 10 раніцы ў судзе Кастрычніцкага раёна Мінска.

Нагадаем, у кастрычніку 2015 года акцёр Купалаўскага тэатра Арцём Барадзіч быў затрыманы супрацоўнікамі праваахоўных органаў у сябе ў кватэры. У яго знайшлі 26 грам марыхуаны. Пакуль ішло расследаванне, акцёр заставаўся на волі, граў у спектаклях. Аднак затым яго дзеянні перакваліфікавалі на больш цяжкае злачынства, і 25 студзеня Арцёму Барадзічу выставілі ўжо канчатковае абвінавачанне па ч. 2 арт. 328 КК. Цяпер яго абвінавачваюць «у незаконных дзеяннях з мэтай збыту, набыцця і захоўвання марыхуаны». У той жа дзень яго ўзялі пад варту, цяпер ён знаходзіцца ў турме №8 Жодзіна.

Дарэчы, некалькі гадоў таму Барадзіч таксама прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за незаконнае захоўванне небяспечных наркатычных сродкаў. Цяпер аднаму з самых запатрабаваных акцёраў Купалаўскага тэатра пагражае ад пяці да васьмі гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

УШ



## Аварыя па свежым снезе: двое загінулі, пяцёра ў бальніцы

Раніцай 12 лютага 52-гадовы кіроўца ГАЗ-66, рухаючыся вуліцай Аршанская шаша ў Лепелі, сутыкнуўся з аўтамабілем ДАФ, што рухаўся ў сустрэчным кірунку. Тым кіраваў 42-гадовы вадзіцель.

Два пасажыры аўтамабіля ГАЗ-66 загінулі на месцы. Астатнія 5 пасажыраў аўтамабіля ГАЗ, яго кіроўца і кіроўца ДАФ дастаўлены ў бальніцу з цялеснымі пашкоджаннямі рознай ступені цяжкасці.

УШ

## У Расіі забілі беларуса, які прыехаў купляць машыну

Забойца — прадавец аўто.

Днём у панядзелак, 8 лютага, на закінутых могілках расійскага горада Камышын у Валгаградскай вобласці было знойдзена цела мужчыны.

Пасля агляду цела эксперты паведамілі, што забілі мужчыну не на цвінтары, а прывезлі з іншага месца. Акрамя таго, яны ж выказалі здагадку, што мужчыну праламалі галаву, верагодна, малатком. У кішэнях курткі невядомага было некалькі беларускіх купюр. Як пазней высветлілі аператыўнікі, забіты — 54-гадовы грамадзянін Беларусі.

Следчым і паліцыі за суткі ўдалося высветліць не толькі асобу забітага, але і знайсці забойцу.

У Камышын беларус прыехаў з мэтай купіць машыну, аб'яву аб продажы якой знайшоў у інтэрнэце. Мужчына спісаўся з 29-гадовым жыхаром горада, які размясціў аб'яву, і 7 лютага ўжо быў у Валгаградскай вобласці.

«Прадавец і пакупнік сустрэліся ў гаражным боксе, які гаспадар машыны арандаваў для рамонту аўтамабіляў. Хлопец разумеў, што ў беларуса пры сабе ёсць буйная сума. У пэўны момант гутаркі з пакупніком малады чалавек схапіў кувалду і нанёс ёю некалькі ўдараў па галаве мужчыны. Выкраўшы грошы, забойца вывез цела ахвяры на аўтамабілі аднаго са сваіх кліентаў і схаваў на тэрыторыі закінутых могілак», — распавяла старэйшы памочнік кіраўніка Следчага камітэта Расіі па рэгіёне Наталля Куніцкая.

Злачынцу выдала яго фінансавая актыўнасць: адразу ў дзень забойства ён пачаў траціць скрадзеныя грошы — аплаціў камунальныя плацяжы і пагасіў крэдыты, а таксама выкупіў сваю маёмасць у ламбардзе.

Мужчына затрыманы. Сваю віну ён цалкам прызнаў.

УШ

## Падлучыліся да нафтаправода і год пампавалі паліва

Следчы камітэт распачаў крымінальную справу ў дачыненні да групы з 11 чалавек, якія падазраюцца ў крадзяжы паліва на суму больш за 1 млрд рублёў з нафтаправода Полацк—Вентспілс. Пра гэта паведаміў старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч на пасяджэнні калегіі ведамства па выніках працы за 2015 год.

Паводле аператыўнай інфармацыі, схема дзейнічала ад 2013 года. Для ўрэзкі ў нафтапрадуктаправод і адпампоўвання гаручага выкарыстоўвалася сучаснае абсталяванне, закупленае за мяжой. Злачынцы ўрэзалі ў нафтаправод рукаво даўжынёй у два кіламетры. «Ужыванне тэхналогіі не дазваляла ў рэжыме рэальнага часу зафіксаваць спад ціску ў трубах і, адпаведна, спыніць крадзеж», — адзначылі ў Следчым камітэце.

Паводле дадзеных следства, для захоўвання дызпаліва выкарыстоўваўся рэзервуар, схаваны пад гаспадарчымі пабудовамі спаленай сялібы ў адной з вёсак Віцебскай вобласці. У арганізацыі злачыннага бізнэсу падазраецца 44-гадовы жыхар Браслава.

Каб выкрыць злачынную групу, аператыўнікі працавалі год. Дзеянні падазраваных кваліфікаваныя як крадзеж, учынены групай асоб, у асабліва буйным памеры. Максімальны тэрмін пакарання па гэтым артыкуле — 12 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Следчыя і аператыўнікі працуюць з затрыманымі, праводзіцца агляд месца ўрэзкі ў нафтапрадуктаправод і сховішча з палівам. Канчатковую суму шкоды яшчэ трэба будзе падлічыць.

УШ

## Сцісла

**Задушыў жонку і ледзь не зарэзаўся**

13 лютага п'яны мінчук з рэўнасці задушыў былую жонку металічным тросам, а пасля паспрабаваў і сябе забіць нажом. Але яго выратавалі, ён змешчаны ў бальніцу, там выстаўлены пост міліцыі.

**Не пашанцавала**

Эксгібіцыяніст спусціў штаны перад супрацоўніцай АМАПа ў Віцебску. Калі ён кінуўся ўцякаць, з дапамогай мінакоў жанчына затрымала хулігана. За свае выхадкі мужчына атрымаў тры гады абмежавання волі.

**Чарговая ахвяра чаднага газу?**

Нежывое цела 37-гадовага аўтамайстра выявілі 9 лютага ў адным з аўтасэрвісаў Ваўкавыска. Падрабязнасці высвятляюцца.

**Педафіл атрымаў 10 гадоў**

У Слуцку асудзілі мужчыну, які п'яным паспрабаваў згвалтаваць 8-гадовую дзяўчынку. На шчасце, аднакласнік дзяўчынкі паклікаў на дапамогу, злачынцу затрымалі. Суд прыгаварыў яго да 10 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму

**Лідчук замовіў забойства былой жонкі за 500 даляраў**

24-гадовы лідчук за 500 даляраў замовіў забойства былой жонкі, нават пакінуў аванс у 100 даляраў патэнцыйнаму забойцу, але быў затрыманы. Ідзе следства.

УШ

# Хто першы сеў, і іншыя вынікі

Абарончы саюз Францішка і Кірыла — тонкасці пратакола і наступствы для Беларусі. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.


GETTY IMAGES

Уважліваму гледачу кінулася ў вочы, як пры сустрэчы ў аэрапорце «Хасэ Марці» ў Гаване патрыярх Кірыл плюхнуўся ў крэсла раней за біскупа Рыма. Хваляванне, нервовае напружанне? Ці кепскае веданне нормаў пратакола? А можа, дэманстратыўна?

Што ні кажы, Патрыярх Маскоўскі — не Усяленскі, не архібіскуп Канстанцінопаля — Новага Рыма. Дый канстанцінопальскі архібіскуп, хоць паводле канонаў і роўны біскупу Рыма, ведае, што чэсць яму належыць і аддаецца толькі пасля рымскага архірэя.

Са свецкага ж, агульначалавечага, пункту гледжання і наогул нягожа малодшаму векам сядаць раней за старэйшага.

Нарэшце, з пункту гледжання пратакола кіраўніку Маскоўскай Царквы належала разам з Сусветным Архірэем проста папазіраваць перад фота-, тэле- і кінажурналістамі. Так прынята.

Не магу не пакпіць і з журналісцкай (як бы гэта мякчэй сказаць?) некампетэнтнасці. У СМІ давялося не адзін раз сустрэць цверджанне — «упершыню за тысячу гадоў».

Па-першае, тысячу год таму не было Маскоўскай Царквы — была Руская (Кіеўская) пад амафорам Канстанцінопаля. Прадстаяльнік гэтай Царквы — мітрапаліт Ісідар, рэзідэнцыя якога знаходзілася ў Маскве, — сустракаўся з прадстаяльнікам Рымскай Царквы Яўгеніем IV у 1438–1439 гг. у Ферары і Флярэнцыі, дзе пачаўся знакаміты Ферара-Флярэнцыйскі, ён жа XVII Усяленскі, Сабор. Пра Флярэнцыйскую унію пісаць тут не буду, а толькі нагадаю, што яна ў нейкай ступені прычынілася да таго, што ў 1448 г. Маскоўская епархія аддзялілася ад Кіеўскай мітраполіі і стала самастойнаю. Але да прызнання самаабвешчанай Маскоўскай Царквы ўсім Праваслаўем спатрэбіўся 141 год. Толькі ў 1589 г. Масковія вырвала з рук Усяленскага Патрыярха Ераміі II і прызнанне аўтакефаліі сваёй Царквы, і згоду на пастаўленне на Маскве патрыярха. Такім чынам, Маскоўскі Патрыярхат існуе (з двума вялікімі перапынкамі) 426 год, а нам кажуць пра тысячу.

Можна сказаць, што Маскоўская Царква і яе прадстаяльнік у параўнанні з іншымі памеснымі цэрквамі ды іх прадстаяльнікам спазнілася на сустрэчу з Папам. А можна сказаць, што яны не надта і спяшаліся.

Тут такая тонкасць. Калі Папа Ян XXIII склікаў у 1962 г. II Ватыканскі (XXI Усяленскі) Сабор і запрасіў на яго прадстаўнікоў Праваслаўя, Усяленскі Патрыярх Афінагор пасля кансультацый з памеснымі Цэрквамі вырашыў устрымацца ад пасылкі дэлегатаў на Ватыканскі пагорак. Затое Маскоўская Царква паслала свайго прадстаўніка — мітрапаліта Нікадзіма (Ротава). Ёсць падставы сцвярджаць, што ўладыку Нікадзіма, які памёр на руках у Папы Яна Паўла I, у Ватыкан паслалі не Сінод і не Патрыярх, а прэзідыум ЦК КПСС і савецкі ўрад. Аднак ні ЦК КПСС, ні савецкі ўрад, на чале якіх стаяў Мікіта Хрушчоў, не дадумаліся паслаць на сустрэчу з Янам XXIII і яго пераемнікам Паўлам VI прадстаяльніка Маскоўскай Царквы Аляксія I.

Ініцыятыву перахапіў Фанар, і ў студзені 1964 г. у Ерусаліме адбылася гістарычная — першая пасля 1439 г. — сустрэча рымскага біскупа і канстанцінопальскага архібіскупа, Паўла VI і Афінагора. У 1965 г. два патрыярхі ўзаемна знялі праклёны, якія прагучалі ў 1054 г., з лексікону Каталіцкай Царквы канчаткова было выдалена слова «схізматыкі» ў дачыненні да праваслаўных, і з таго часу сустрэчы рымскіх біскупаў з архібіскупамі Новага Рыма сталі звычайнаю з'яваю. А потым адбыліся сустрэчы пантыфікаў з прадстаяльнікамі іншых аўтакефальных праваслаўных цэркваў.

Ян Павел II наведаў шматлікія «праваслаўныя» краіны. Нарэшце і Масква даспела да сустрэчы з рымскім біскупам.

### Калоды на дарозе

Сустрэчы Патрыярха Маскоўскага з рымскім біскупам заміналі маскоўскія прымхі. Не кажу тут аб прэтэнзіях Маскоўскага Патрыярхата на выключнае месца ў Праваслаўі. З таго часу, як абваліўся камуністычны рэжым і рэлігійныя аб'яднанні перасталі трымаць у яжовых рукавіцах, РПЦ пачала прэтэндаваць на выключнае месца сярод хрысціянскіх веравызнанняў у Расіі. З'явіўся тэзіс аб кананічнай тэрыторыі, і РПЦ разам з расійскай уладай усяк замінала разгортванню структур Рыма-Каталіцкай Царквы ў Расіі. Паказальным прыкладам можа быць эксцэс з уладыкам Ежы Мазурам. У мансеньёра Ежы, які з 1998 г. служыў у Сібіры, у красавіку 2002 г. расейскія памежнікі забралі пашпарт. Яму паведамілі, што ён значыцца ў спісе асобаў, якім забаронены ўезд у Расію. На месца мансеньёра Ежы Ватыкан адправіў мінскага суфрагана, біскупа Кірылу Клімовіча.

РПЦ працяглы час вінавaціла і Ватыкан, Рыма-Каталіцкую Царкву ў Расіі ў празелітызме: маўляў, перацягвае да сябе нашу паству. Найнебяспечнейшым з інструментаў ватыканскага празелітызму, на думку дзеячаў РПЦ, з'яўляецца ўніяцтва. Задушанае, яно пасля краху камуністычных рэжымаў пачало аднаўляцца практычна ва ўсіх краінах былога савецкага блоку. Асабліва ж устрывожыў Маскву выхад з падполля Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы і масавае вяртанне ў яе ўлонне людзей у парафіях, якія пасля Львоўскага лжэсабора 1946 г. Масква лічыла давеку сваімі. Пазней абурэнне Масквы выклікаў і факт пераносу пасаду Вярхоўнага архібіскупа УГКЦ з Львова ў Кіеў, што сімвалізавала пераход Царквы са стану рэгіянальнай у стан нацыянальнай.

### Ватыканскія рэверансы

Каб заспакоіць РПЦ і наладзіць з ёю дыялог, Ватыкан ужо ў 1993 г. учыніў, так бы мовіць, кардынальную саступку Праваслаўю, у першы чарод Маскве. У 1993 г. у Ліване, у Баламандскім манастыры Антыяхійскай Праваслаўнай Царквы, была завізавана дэкларацыя, у якой адкідваецца ўніяцтва як спосаб пошуку адзінства праваслаўных і каталікоў, бо гэта, маўляў, «супярэчыць супольнай традыцыі нашых Цэркваў».

Хоць Баламандская дэкларацыя так і не стала юрыдычным дакументам, хоць супраць пэўных яе пунктаў выступілі як праваслаўныя, так і ўніяты, хоць РПЦ не лічыць яе абавязковым дакументам, Ватыкан даволі паслядоўна прытрымліваецца яе палажэнняў. Ён так і не адважыўся прызначыць асобнага біскупа для расійскіх грэка-каталікоў. Іх ардынарыем стаў заходнесібірскі лацінскі біскуп Іосіф Вэрт. Гэта смешнавата, але гэта факт: уладыка Іосіф лацінскую літургію служыць у адным аблачэнні, а візантыйскую — у другім.

Вынікам ватыканскай палітыкі стала і тое, што свайго біскупа не атрымалі і беларускія ўніяты. Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква — гэта ўяўленая структура, бо, як вядома, Царквы без біскупа не бывае.

Каб не раздражняць кіраўніцтва РПЦ, Ватыкан пазбягае найменавання рыма-каталіцкіх епархіяў у Расіі ад назваў галоўных гарадоў царкоўных абласцей. Так, архіепархія з цэнтрам у Маскве — не Маскоўская архідыяцэзія, а архіепархія Божай Маці, епархія з цэнтрам у Саратаве — імя Святога Клімента, з цэнтрам у Іркуцку — Святога Язэпа, а з цэнтрам у Новасібірску — Перамянення Гасподняга.

Маскву раздражняла тое, што дзве з чатырох лацінскіх кафедраў у Расіі займалі выхадцы з Беларусі («польска-беларуская каталіцкая агрэсія»). І Ватыкан паставіў у Маскву на месца мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча італьянца Паўла Пецы. І хоць архібіскуп Павел займае кафедру ўжо восем год, ён так і не ўзведзены ў сан мітрапаліта.

З другога боку, Ватыкан спрыяе РПЦ у Еўропе. Дае ў карыстанне ці нават перадае Маскоўскаму Патрыярхату храмы, дае магчымасць праваслаўным семінарыстам і святарам вучыцца ў каталіцкіх навучальных установах. Былі выпадкі, калі каталіцкія багасловы выкладалі ў расійскіх праваслаўных установах (вядома, што ў РПЦ недахоп высокакваліфікаваных кадраў).

### Два пантыфікі: невыпадковасць сустрэчы

Трэба аддаць належнае Ватыкану. Сваю палітыку збліжэння з Масквою ён настойліва вядзе з XV ст. Часам рымскі біскуп забывае, што ён галава

---

**Арцыбіскуп Гуджэроці: Украінцы, зразумейце кампраміс**

У Кіеве ў грэка-каталіцкім саборы Уваскрасення Хрыстовага 14 лютага апостальскі нунцый ва Украіне арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці пасля літургіі пракаментаваў сустрэчу Папы з Патрыярхам Маскоўскім. Ён нагадаў пра неабходнасць заўсёды бачыць сонца за хмарамі і ўдакладніў, што ў дадзеным выпадку ролю хмараў адыгрывалі самалёты.

«Нам заставалася толькі сядзець перад тэлевізарам і глядзець на сустрэчу двух самалётаў, — але гэта таксама сустрэча двух чалавек, а сустрэча двух чалавек заўсёды ёсць таямніцай Божай, — кажа прадстаўнік Ватыкана. — Трэба ўсё аддаць Божай міласэрнасці. Калі не рабіць ніякіх крокаў наперад, будзе артроз. Я ведаю, як ваш народ пакутуе з-за цяжкасцяў з разуменнем гэтай сустрэчы».

Дарэчы, біскуп Гуджэроці раней быў нунцыем у Беларусі.

# сустрэчы Папы і патрыярха

Каталіцкай, а не толькі Рыма-Каталіцкай Царквы, таму даволі часта ігнаруе інтарэсы каталікоў усходніх традыцый. Тут бачыцца і пакрыёмае жаданне, каб каталікі з усходніх абрадаў пераходзілі ў лацінскі. Скажам, Ватыкан даволі стаічна прыняў вестку аб ліквідацыі Уніі ў Расійскай імперыі, у першы чарод у Беларусі. Ён шмат страціў, але трохі і выйграў: з часам дзясяткі, калі не сотні, уніяцкіх парафіяў перайшлі ў лацінства.

Усяленскімі Саборамі І тысячагоддзя за рымскімі біскупамі было прызнана першынство ў хрысціянскім свеце. Ад гэтага статусу яны не адмаўляюцца і сёння. Прырода ж Царквы — місійная. Сваімі кніксэнамі Ватыкан стараецца ствараць як мага больш спрыяльную атмасферу і глебу для працы рымакаталіцкіх структур у Расіі.

Летась мы не разумелі, чым тлумачацца скандальныя заявы Францішка аб ваенных падзеях ва Украіне. Услед за Кірылам ён назваў гэтую вайну братазабойчаю. Ён заклікаў не разглядаць падзеі ў катэгорыях паразы ці перамогі і заявіў, што адзіна правільным словам для выхаду з сітуацыі з'яўляецца слова «мір». Не было ўдакладнена, які мір: справядлівы ці любой цаною? Дайшло да таго, што ватыканскія саноўнікі давалі наконт выказванняў Папы тлумачэнні ўкраінскім дыпламатам.

Папа, як мне помніцца, аніразу не выказаўся проста і адназначна пра вынішчэнне ўкраінскіх грэка-каталікоў і пратэстантаў у акупаваных Крыме і Данбасе.

Можна сказаць, што сустрэча з патрыярхам Кірылам — вынік усёй папярэдняй палітыкі Ватыкана ў адносінах да Расіі, палітыкі саступак.

З другога боку, Кірыл вядомы як вучань мітрапаліта Нікадзіма, якога я ўжо згадваў. Акрамя таго, не можа не кінуцца ў вочы, што галава РПЦ спрабуе арганізаваць працу цэнтральных царкоўных устаноў на ўзор рымскай курыі, выпрацаваць для кожнай з іх рэгламенты і статуты. Іншы раз Кірыла ўжо называюць маскоўскім пантыфікам.

Нельга не ўзяць пад увагу, што палітыка клерыкалізацыі, якую вядзе РПЦ, сустракае ў Расіі супраціў свецкіх колаў. Кіраўніцтва РПЦ нясе таксама іміджавыя страты. Чаго вартыя былі скандалы вакол панк-рок-гурту «Pussy Riot» і пастаноўкі оперы Рыхарда Вагнера «Тангейзер» у Новасібірску. А гісторыі з гадзіннікам Кірыла і з нанапылам, калі выявілася што ў манаха Кірыла ёсць кватэра ў горадзе, у якой жыве нейкая жанчына?

Сустрэча з папам-аскетам патрэбная была Кірылу і для прэстыжу, для паляпшэння свайго іміджу.

Не выключаны і палітычны складнік сустрэчы. Пуціну і яго атачэнню трэба нейк выйсці з паўізаляцыі, у якой яны апынуліся. І дамагчыся зняцця эканамічных санкцыяў, бо расійская эканоміка апынулся ў цяжкім становішчы. Дапамог жа Ватыкан камуністычнаму рэжыму на Кубе.

Дарэчы пра Кубу. Дармо, што там у турмах пакутуюць дзясяткі палітвязняў, дармо, што народ жыве на мяжы галечы — Францішак і Кірыл назвалі Кубу сімвалам надзеі для Новага Свету. Па-мойму, гэта цынізм, палітыканства. І чарговая ватыканская саступка Маскве.

Ну і супольныя інтарэсы не маглі не прывесці да сустрэчы рымскага і маскоўскага пантыфікаў. Гэта і прост трагічнае становішча хрысціянаў на Блізкім Усходзе, уключаючы Паўночную Афрыку, гэта і наступ секулярызаванага грамадства і дзяржаўных структур у Еўропе і Паўночнай Амерыцы на хрысціянскія ўстаноўкі...

### Плюсы і мінусы

Як і чакалася, у супольнай заяве Францішка і Кірыла гэтыя праблемы знайшлі сваё адлюстраванне. У гэтым святле натуральна прагучаў заклік да адзінства хрысціянаў Заходняй і Усходняй Еўропы.

Шкада, што Францішак і Кірыл нейк выпусцілі з-пад увагі крывавыя расправы з хрысціянамі ў іншых частках свету — напрыклад, у Нігерыі ды Індыі. Тады больш абгрунтавана гучаў бы тэзіс аб патрэбе міжрэлігійнага дыялогу.

Нельга не звярнуць увагу і на тое, што Усяленскі Архірэй і прадстаўнік памесной Царквы выказалі думку аб пагрозе новай сусветнай вайны.

Вось і ўсё тое рэлігійна-царкоўнае ў супольнай заяве Францішка і Кірыла, што выклікае разуменне і нават спачуванне.

Разам з тым нельга не адзначыць, што супольную заяву ў Гаване падпісваў не галава Каталіцкай, а галава Рыма-Каталіцкай Царквы.

«З нашага шматгадовага досведу можна сказаць: калі Ватыкан і Масква наладжваюць сустрэчы ці падпісваюць нейкія супольныя тэксты, дык нам не трэба чакаць ад гэтага чагосьці добрага». Так сказаў Вярхоўны архібіскуп Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Святаслаў.

Як і прадказвалі многія, у Гаване паўтарыўся Баламанд. У заяве Францішка і Кірыла чытаем: «Сёння відавочна, што метад «уніятызму» ранейшых вякоў... не з'яўляецца шляхам да аднаўлення адзінства».

Праўда, далей запісана, што «грамады (супольнасці), якія з'явіліся ў выніку гістарычных абставінаў, маюць права існаваць і ўчыняць усё неабходнае для задавальнення духоўных патрэбаў сваіх вернікаў, імкнучыся да міру з суседзямі».

Ці азначае гэта, што грэка-каталікі Беларусі і Расіі займеюць нарэшце сваіх архірэяў? Ці ўсё-такі прызначэнне біскупаў будзе ўспрынята Данілавым манастыром як акт агрэсіі?

Апошні сказ у цытаваным абзацы («Праваслаўныя і грэка-каталікі маюць патрэбу ў прымірэнні і ў знаходжанні ўзаемапрымальных формаў суіснавання») можна ўспрымаць як пусты дадатак, які не дае адказу на папярэдняе пытанне. Гэты сказ можна патлумачыць і так: калі вы, уніяты, хочаце мірна жыць з праваслаўнымі, сядзіце і не рыпайцеся, і навт не думайце пра сваю іерархію і навучальныя ўстановы ў Беларусі і Расіі. А ватыканскія чыноўнікі згодна ківацьмуць галовамі.

### Яшчэ дзве перамогі Масквы

Пацвярджэнне ў супольнай заяве Францішка і Кірыла антыўніяцкага палажэння Баламандскай дэкларацыі — безумоўная перамога РПЦ.

Перамагла Масква і тады, калі ў заяву ўпісваўся пункт аб Украіне. Ужо само слова «супрацьстаянне» ў гэтым пункце выклікае пытанне: хто каму супрацьстаіць? Бандыты, баевікі — украінскай дзяржаве? Ці Расія — Украіне на яе суверэннай тэрыторыі?

Яшчэ цікавей у наступных сказах. Францішак і Кірыл заклікаюць структуры РПЦ і Каталіцкай Царквы (рыма- і грэка-каталікоў) «устрымлівацца ад удзелу ў супрацьборстве і не падтрымліваць далейшае развіццё канфлікту».

Папа і патрыярх заклікаюць сваіх вернікаў стаць дэзерцірамі? А царкоўным супольнасцям раяць адкліказь з украінскага войска капеланаў?

Калі Ватыкан не можа назваць агрэсара агрэсарам і заклікаць яго спыніць падтрымку бандытаў, вярнуць Украіне Крым, то лепш было б не закранаць украінскія праблемы ў гэтай заяве. Дастаткова было б выказаць смутак з прычыны таго, што адбываецца ва Украіне. І ўжо зусім не варта было б Ватыкану выказвацца наконт міжправаслаўных звадак ва Украіне і падыгрываць Маскве словамі аб пераадоленні расколу «на аснове існуючых кананічных нормаў».

### А што для Беларусі?

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч назваў гэтае спатканне сустрэчай тысячагоддзя. Ці не занадта? Усё-ткі была сустрэча Яўгенія і Ісідара, якая прывяла ў нашых землях да Уніі. Усё-ткі была ерусалімская сустрэча Паўла і Афінагора — сустрэча, якая паклала пачатак каталіцка-праваслаўным кантактам новага часу на ўзроўні прадстаўнікаўЦэркваў...

А вось аптымізму ў мітрапаліта Тадэвуша малавата. Ягоны аптымізм асцярожны, бо яму толькі «здаецца, што візіт Папы ў Беларусь сёння настолькі блізкі, як ніколі перад гэтым».

Ведама, добра было б, калі б Кірыл дазволіў грамадзянам нібыта незалежнай дзяржавы Беларусі прывітаць на сваёй зямлі рымскага біскупа.

Тут у мяне ёсць пэўны разлік. Прыехаўшы ў Беларусь, галава Каталіцкай (а не толькі Рыма-Каталіцкай) Царквы радняволя мусіць сустрэцца з грэка-каталікамі. А сустрэча не зусім сустрэча без літургіі. І дзе будуць служыць тую літургію, калі ў Менску няма грэка-каталіцкага храма? Дык мо да прыезду Папы пабудуюць у нашай сталіцы ўніяцкі храм з трыма ці пяццю купаламі? Мо і біскупа да таго часу паставяць? А то што за літургія ў прысутнасці Папы, якую служыць не-біскуп?

**Патрыярх Кірыл заклікаў зрабіць усё магчымае для збліжэння ЗША і Расіі**

Царква і грамадства павінны зрабіць усё магчымае, каб спрыяць паляпшэнню ўзаемаадносін Расіі і ЗША, сказаў патрыярх Кірыл у інтэрв'ю тэлеканалу Russia Today, якое ён даў па выніках сустрэчы на Кубе з Папам Францішкам.

«Трэба зрабіць усё для таго, каб радыкальна змяніць адносіны паміж Расіяй і ЗША да лепшага. Трэба разумець, што існуюць дзве такія магутныя краіны, якія адна адну могуць знішчыць, якія свет могуць знішчыць сваім ваенным патэнцыялам. Ні ў якім разе нельга дапусціць вялікай вайны», — заявіў патрыярх.

Паводле слоў прадстаяцеля РПЦ, тэма паляпшэння адносінаў Масквы і Вашынгтона абмяркоўвалася ў ходзе яго сустрэчы з Папам Францішкам.

### Перспектыва

Нягледзячы на афіцыйную падтрымку, Руская Праваслаўная Царква перажывае няпросты час. Яна страціла тысячы парафій ва Украіне.

Раней ці пазней востра паўстане пытанне аб вяртанні Праваслаўных Цэркваў Латвіі ды Літвы пад амафор Патрыярха Канстанцінопальскага.

Ёсць жаданне самастойнасці і ў праваслаўных Беларусі.

Трэба думаць, што Ватыкан ведае гэтыя прагнозы. Ведае і пра рост долі мусульман у насельніцтве Расіі, і пра рост папулярнасці пратэстантаў, і пра тое, што колькасць каталікоў у Расіі не расце.

На што ж тады ён спадзяецца, творачы рэверансы перад РПЦ? Думаецца мне, для вырашэння глабальных задач, што паўсталі перад артадаксальным хрысціянствам — і каталіцтвам, і праваслаўем у роўнай меры, — Ватыкану патрабуецца дыялог на найвышэйшым узроўні з усяленскім Праваслаўем.

Між тым, па-мойму, для артадаксальнага хрысціянства і ва Усходняй Еўропе, у Еўразіі таксама настае пара або глухой абароны, або глыбокага рэфармавання. Свет мяняецца — мусіць мяняцца і артадаксальнае хрысціянства.

## Украіна, непаразуменні праваслаўных і грэка-католікаў, шкадаванне аб раздзеле — асноўныя пункты сумеснай дэкларацыі Папы і Патрыярха Маскоўскага

12 лютага ў Міжнародным аэрапорце імя Хасэ Марці ў кубінскай Гаване прайшла двухгадзінная сустрэча Папы Рымскага Францішка і Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла, якая стала першай у гісторыі сустрэчай вышэйшых прадстаўнікоў Каталіцкага Касцёла і Рускай Праваслаўнай Царквы.

Вынікам сустрэчы стала падпісанне сумеснай дэкларацыі, якая ўтрымлівае 30 параграфаў на дзесяці старонках.

Асноўная ўвага падчас сустрэчы надавалася становішчу хрысціян на Блізкім Усходзе, а таксама ў іншых рэгіёнах. У прыватнасці, у 26 пункце дэкларацыі гаворка ішла пра становішча хрысціян ва Украіне.

### «Мы смуткуем аб супрацьстаянні ва Украіне»

«Мы смуткуем аб супрацьстаянні ва Украіне, якое забрала ўжо шмат жыццяў, нарабіла шмат гора. Мы заклікаем усе бакі канфлікту да разважлівасці, а нашы Цэрквы заклікаем не ўдзельнічаць у канфлікце і спрыяць міру ў рэгіёне», — гаворыцца ў дэкларацыі.

У 27 пункце іерархі падкрэслілі, што вераць у тое, што раскол праваслаўных вернікаў Украіны будзе пераадолены на аснове існуючых кананічных нормаў, што ўсе праваслаўныя хрысціяне Украіны будуць жыць у міры і згодзе, а каталіцкія абшчыны краіны будуць гэтаму спрыяць, каб наша хрысціянскае брацтва было яшчэ больш відавочным.

### Пра непаразуменні паміж грэка-католікамі і праваслаўнымі

«Спадзяёмся, што наша сустрэча зробіць уклад у прымірэнне там, дзе існуюць непаразуменні паміж грэка-католікамі і праваслаўнымі. Сёння відавочна, што метад «уніятызму» былых вякоў, які прадугледжваў падпарадкаванне адной абшчыны ў адзінства з іншай шляхам яе адрывання ад сваёй Царквы, не з'яўляецца шляхам да ўзнаўлення адзінства.

У той жа час царкоўныя абшчыны, якія з'явіліся ў выніку гістарычных акалічнасцей, маюць права існаваць і рабіць усё неабходнае для задавальнення духоўных патрэбаў сваіх вернікаў, імкнучыся да міру з суседзямі. Праваслаўныя і грэка-католікі маюць патрэбу ў прымірэнні і знаходжанні прымальных формаў узаемнага суіснавання»

### «Мы не супернікі, а браты»

«Праваслаўныя і католікі аб'яднаныя не толькі агульнай Традыцыяй Царквы першага тысячагоддзя, але і місіяй пропаведзі Евангелля Хрыстовага ў сучасным свеце. Гэта місія прадугледжвае ўзаемную павагу членаў хрысціянскіх абшчын, выключае любыя формы празелітызму.

Мы не супернікі, а браты: з гэтага разумення мы павінны зыходзіць ва ўсіх нашых дзеяннях у адносінах адзін да аднаго і да знешняга свету. Заклікаем католікаў і праваслаўных ва ўсіх краінах вучыцца жыць разам у міры, любові і аднадумстве паміж сабою (Рым 15,5)», — гаворыцца ў дэкларацыі, якую падпісалі іерархі.

# Пілігрымка Еўфрасінні: вера і палітыка

## Гісторыя Беларусі. Частка XXXVI

Піша **Алег Дзярновіч.**

### Крыж Еўфрасінні

Еўфрасіння Полацкая ініцыявала заснаванне двух полацкіх манастыроў, жаночага Спаскага і мужчынскага Багародзіцкага, вакол якіх развіліся асяродкі асветы і дабрачыннасці — бібліятэка, скрыпторый, шпіталь-багадзельня. Актыўнасць Еўфрасінні паўплывала на развіццё ў Полацку мастацтваў і рамёстваў — выступаючы як замоўца каштоўных вырабаў, полацкая ігумення шмат у чым вызначала і іх стылёвыя характарыстыкі. Паказальны ў гэтым сэнсе крыж, які атрымаў сваю назву ад імя фундатаркі і стаў адным з нацыянальных сімвалаў Беларусі.

Еўфрасіння, як ініцыятарка будаўніцтва новых храмаў у Полацку, дбала пра іх рэлігійны статус. Яго можна было падвысіць, займеўшы хрысціянскія рэліквіі. Еўфрасіння здолела атрымаць для Полацка фрагмент Крыжа Хрыстовага, камень з Пахавальні Багародзіцы, фрагмент Труны Панскай, кроў св. Дымітрыя, дасланыя візантыйскімі імператарам і патыярхам. Для захавання гэтых святыняў Еўфрасіння і замовіла ў якасці рэлікварыя крыж, які мы ведаем як Крыж Еўфрасінні.

Гэта быў напрастольны крыж, які змяшчаўся ў храме на прастоле (алтарным камені). Шасціканцовы, характэрнай формы, вышынёй 51,8 см, ён меў аснову з кіпарысу. Да паверхняў крыжа былі прымацаваныя залатыя пласціны з эмалевымі выявамі святых, да бакавых — сярэбраныя пласціны з надпісам. Калі прыгледзецца да захаваных з XIX ст. выяў крыжа, на яго знешняй пласціне мы можам прачытаць пазначэнні тых часцінак хрысціянскіх рэліквій, што знаходзіліся ўнутры. Апроч таго, без перабольшвання мы маем унікальны выпадак, калі год вырабу і імя майстры той эпохі дакладна вядомыя.

Паводле тэксту на бакавых пласцінах крыжа, у 1161 годзе Еўфрасіння заказала майстру Лазару, нарачонаму Богшам, выраб крыжа для Спаскай царквы. Лазар — гэта імя, атрыманае ў хрышчэнні, а Богша, відавочна, скарочанае ад паганскага імя Багуслаў, пашыранага ў той час сярод заходніх славян. Шэраг ананімных твораў XII ст., паводле тэхнікі вырабу, таксама адносяць да аўтарства Лазара Богшы. Напрыклад, медальён з Кіеўскага скарбу 1824 г.

Адметнасць мастацкага аздаблення Крыжа Еўфрасінні — выкарыстанне тэхналогіі перагародчатай эмалі. Гэта працаёмкая і складаная тэхніка. Спачатку на тонкай металічнай пласціне-аснове прадрапвалі ці праразалі наскрозь контур-эскіз будучай выявы. Далей па гэтым контуры напайваюць металічныя палоскі-перамычкі, якія ўтвараюць ячэйкі розных памераў і формаў. Потым кожную ячэйку запаўнялі парашком эмалі розных колераў і абпальвалі выраб. Эмаль плавілася і ўтварала тонкае шклопадобнае пакрыццё. Пасля выраб шліфавалі і паліравалі, каб эмаль і верх перамычкі знаходзіліся на адной плоскасці. Гэта складаная тэхналогія прыйшла ва Усходнюю Еўропу з Візантыі.

Крыж Еўфрасінні, апроч сакральнага зместу і мастацкай каштоўнасці, мае для нас значэнне і як помнік мовы. На гэтым прадмеце меўся багата надпісаў па-старaславянску. Але Крыж Еўфрасінні можна лічыць і першым прыкладам фіксацыі асаблівасцяў беларускай мовы. Такія словы, напрыклад, як «манастыр», «піскуп» (біскуп) могуць быць добрым прыкладам, як жывая моўная стыхія пранікала і ў такую кансерватыўную з'яву, як стараславянская мова.

Сімвалічна, што столькі сакральных, культурных і тэхналагічных сюжэтаў сканцэнтравалася вакол дзейнасці прадстаўніцы полацкага княскага дому XII ст., якая абрала рэлігійнае служэнне, але ўвесь час заставалася ў цэнтры грамадскага жыцця свайго краю.

### Падарожжа Еўфрасінні

Адной з найважнейшых падзеяў жыцця Еўфрасінні стала яе паломніцтва ў Святую зямлю. Гэты было першае паломніцтва з беларускіх земляў, зафіксаванае ў пісьмовых крыніцах. Тым больш нечакана, што ў пілігрымку выправілася Еўфрасіння, якая за ўсё свядомае жыццё далей ваколіц Полацка не выязджала. Пра гэта было сказана і ў «Жыцці» святой: «Не бывала яна раней ні ў якой краіне, ні ў горадзе, ні ў сяле».

Еўфрасіння абрала не зусім традыцыйны маршрут — яна скіравалася ў Канстанцінопаль і Іерусалім не звычным для Усходняй Еўропы «шляхам з варяг у грэкі», які ішоў па рэках, а сухаземным. Пра гэта сведчыць сустрэча полацкай ігуменні з імператарам Мануілам I Комнінам падчас яго выправы «на Угры». Візантыйскі цэсар, як сказана ў «Жыцці Еўфрасінні Полацкай», сустрэў «і з вялікай пашанай паслаў яе ў Царград». Мэты гэтай місіі мы дакладна не ведаем, але, відавочна, полацкая ігумення магла выконваць і нейкія дыпламатычныя задачы. Зрэшты, яна сустракалася з імператарам, падчас валадарання якога ў 1143—1180 Візантыя здолела аднавіць сваю вайсковую і фінансавую магутнасць. Мануіл меў таксама ўласную «рускую палітыку» — неаднаразова ён падтрымліваў розных прэтэндэнтаў на кіеўскі стол, а галіцкага князя Уладзіміра Валадаравіча лічыў сваім васалам. У 1164—1165 пры двары новага галіцкага князя Яраслава Асмамысла хаваўся збеглы кузен імператара Андранік Комнін. Але ўдалося дасягнуць паразумення — Андраніку было дазволена вярнуцца ў Канстанцінопаль, а князь Яраслаў зноў прыняў імператарскую апеку. Гэта камбінацыя была выгаднай Мануілу, бо праз галіцкія землі, праз Карпаты, імператарскае войска выпраўлялася на Венгрыю, над якой цэсар, сам сын венгерскай прынцэсы, імкнуўся ўсталяваць пратэктарат.

Якраз у апагеі гэтых падзей, у пачатку красавіка 1167, і адбылася сустрэча Еўфрасінні з імператарам. Мы не ведаем зместу іх размовы. Але трэба адзначыць, што прадстаўнікі полацкага княскага дому не былі экзотыкай для візантыйскага двара ў сярэдзіне XII ст. — менавіта бацька Мануіла, імператар Іаан II Комнін, прымаў у Візантыі сасланых Кіевам полацкім князёў. Далей жа, праз Канстанцінопаль і храм Святой Сафіі, шлях Еўфрасінні ляжаў у Іерусалім.



**Крыж Еўфрасінні Полацкай**

напрастольны крыж, выраблены ў 1161 майстрам Лазарам Богшам паводле замовы ігуменні Еўфрасінні для царквы Святога Спаса ў Полацку. Крыж быў згублены падчас Другой сусветнай вайны. Разглядаліся розныя версіі знаходжання крыжа — ад нью-ёркскіх калекцый Фундацыі Моргана да запаснікоў расійскіх музеяў. У 1990-я КДБ Беларусі спрабавала шукаць рэліквію менавіта ў Расіі. У 1997 брэсцкі майстра-ювелір Мікалай Кузьміч вырабіў копію крыжа.

### У Святой зямлі

Але што з пункту гледжання палітычнага на той час уяўлялі сабой Іерусалім і навакольныя тэрыторыі, вядомыя ў еўрапейскай традыцыі як Святая зямля? Гэтыя абшары ад 1099, з часоў Першай крыжовай выправы, уваходзілі ў склад хрысціянскага Іерусалімскага каралеўства. Валадар каралеўства Аморы I выбудоўваў альянс з Візантыйскай імперыяй. Ён разлічваў сумеснымі намаганнямі ўсталяваць кантроль над Егіптам, дзе ішлі бясконцыя войны паміж візірамі. Нечакана для нас князёўна-ігумення Еўфрасіння і апынаецца ў цэнтры ўсіх гэтых палітыка-дыпламатычных камбінацый, якія накладаліся на духоўна-рэлігійную місію у Палесціну.

Ужо прыбыўшы ў Іерусалім, Еўфрасіння дасылае свайго слугу Міхаіла да тагачаснага патрыярха з просьбаю адчыніць для яе храм Гроба Гасподняга. Верагодна, гэта той самы Міхаіл, які некалі па заданні Еўфрасінні ездзіў у Візантыю па абраз Багародзіцы Эфескай. Выглядае, што Міхаіл не быў шараговым слугою.

У Іерусаліме Еўфрасіння пасялілася ў манастыры Святой Багародзіцы. Літаральна на другі дзень знаходжання ў Святым горадзе полацкая ігумення занядужала. Схільная да містыцызму, успрыняла гэта як Боскі знак. Яна не мела сілаў схадзіць да Іардану і папрасіла гэта зрабіць сваіх крэўных і верных спадарожнікаў — малодшых брата Давіда і сястру Еўпраксію. Яны прынеслі Еўфрасінні вады з ракі, у якой быў ахрышчаны Ісус. У Еўфрасінні паўтарыліся відані — да яе сышоў Анёл і перадаў вестку: «Вось ужо расчынілася брама райская і ўсё анёлы сабраліся, трымаючы свечы і чакаючы сустрэчы з табой».

Хутка Еўфрасіння паслала ў лаўру Святога Савы Асвячонага — прасіць, каб ёй было дазволена там быць пахаванай. Гэты эпізод вельмі важны для разумення рэлігійнай праграмы полацкай ігуменні. Абіцель Савы Асвячонага была мужчынскім манастыром, і там маглі знаходзіцца і быць пахаванымі толькі мужчыны. Гэта пацвярджае версію, што Еўфрасіння з Полацка ўзяла сабе за патронку хрысціянскую святую V ст. Еўфрасінню Александрыйскую. Паводле «Жыція», у час візіту ў манастыр да духоўнага настаўніка Еўфрасіння Александрыйская вырашыла звязаць сваё жыццё з манаскім служэннем, у той час як бацька збіраўся выдаць яе замуж. Каб яе складаней было знайсці родным, Еўфрасіння Александрыйская сышла не ў жаночы, а ў мужчынскі манастыр, назваўшыся еўнухам імператарскага палаца Смарагдам. Дынастычнае і палітычнае лідарства Еўфрасінні з Полацкага княскага дома, і жаданне быць пахаванай у мужчынскім манастыры аб'ядноўвае гэтыя дзве фігуры — Еўфрасінню Полацкую і Еўфрасінню Александрыйскую.

Манахі ж адказалі полацкай ігуменні: «Маем забарону ад святога Савы, каб жанчыну не прымалі сюды ніякую». Але ёсць, казалі яны, паблізу агульнабытны Феадосіеў манастыр Святой Багародзіцы, дзе пахаваныя святыя жанчыны: «Там табе належыць легчы!»

Атрымаўшы такую вестку, Еўфрасіння паслала купіць сабе труну. У хваробе Еўфрасіння ляжала 24 дні, апрытомнела толькі перад сконам. Еўфрасіння была пахаваная хоць і далёка ад Радзімы, але ў прысутнасці сваіх крэўных 24 мая 1167. Аўтар «Жыцця» праз трыццаць гадоў пасля скону полацкай князёўны-ігуменні скончыў свой твор пранікнёнымі словамі: «Еўфрасіння — неўвядальны квет райскага саду. Еўфрасіння — арол, які лунаў [у небе] ад захаду і да ўсходу, [яна] — як промень сонечны, які прасвятліў зямлю Полацкую».

Далей патрыятычныя матывы агучваюцца яшчэ больш узнёсла: «Дабраславёны ты, горад Полацк, што ўзрасціў такі парастак — найпадобную Еўфрасінню! Дабраславёныя людзі, што жывуць у горадзе тым!»

Пра статус і ролю жанчын у еўрапейскім Сярэднявеччы і ў Полацкай зямлі чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі»



**Алег Дзярновіч**

Гісторык. Нар. у 1966. Аўтар прац па гісторыі, гісторыі культуры, археалогіі Сярэднявечча і Новага часу.

# Задыяк

Апавяданне. Піша **Алесь Кіркевіч**.

Кожны раз, калі праходжу побач з кавярняй «Задыяк» у Львове, мяне кідае ў дрыжыкі. Цяпер яе дзверы наглуха зачыненыя ралетам, на ганку не паляць наведнікі ды не стаіць чорная рэклама-раскладушка з абяцаннямі зніжак для студэнтаў. Кавярня была рэхам 90-х, з кічаватым камінам, пустым акварыумам і фрэскамі ў выглядзе знакаў задыяка на сценах ды столі. Калісьці там тусілі бандыты са сваімі шлёндрамі, апошнім часам — студэнты Палітэхнікі. Мяне з тым месцам звязвала толькі адна сустрэча.

Гэты беларус з'ехаў ва Украіну нібы з палітычных прычынаў. Я дамовіўся сустрэцца з ім, разлічваў на інтэрв'ю з парайтройкай фота: чаму з'ехаў, як жывецца, погляд на ўкраінскія справы і — далей у такім духу. Такая сабе халтура падчас адпачынку.

Лайфаўскі нумар хлопца мне падказалі знаёмыя з нацыяналанархістаў, да якіх той хлопец, Багдан Навіцкі, прыбіўся пасля ад'езду з Беларусі.

Сустрэцца я прапанаваў у «Панараме», кавярні на апошнім паверсе гатэля «Дністр». Багдан, ці Бодзя, як тут кажуць, пасля паўзы пагадзіўся на сустрэчу, але прапанаваў іншую кропку — кавярню «Задыяк», зусім побач, пяцьдзясят метраў ад гатэля.

Амерыкана — найкруцейшая кава, асабліва калі ты журналіст. Яе можна замаўляць, не зазіраючы ў меню. Блакнот, асадка, дыктафон — усё гатова. На Багдана я чакаю за сталом у самым куце. З паўпадвальнага памяшкання кавярні праз вокны бачныя ногі мінакоў, падкатаныя джынсы, берцы, красоўкі. Наведнікаў няма.

Багдан спазніўся хвілін на дзесяць, патлумачыўшы заторамі на Гарадоцкай. Узяў эспрэса і шклянку вады. На выгляд хлопцу год трыццаць, светлыя валасы, выцягнуты твар з прамым носам, выразныя шэрыя вочы.



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям'і гісторыкаў. Быў адным з лідараў Маладога фронту. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам-фрылансерам.

Багдан папрасіў папяльнічку і закурыў. Тут, аказваецца, можна паліць, я не ведаў. Мо таму сустрэча і перанесеная сюды?..

— Што Вас цікавіць?

— Па-першае, чым ты займаўся ў Беларусі? Ці затрымлівалі? Чаму з'ехаў?.. Калі хочаш, прыдумай сабе нейкае псеўда для артыкула, як лічыш, што, напрыклад, у родных будуць праблемы...

Насуперак канонам журналістыкі я наваліў адразу купу пытанняў. Нічога, пасля падрэдагую і разаб'ю на асобныя тэмы. Мой суразмоўца запаліў цыгарэту і пачаў — дзелавіта і энергічна:

— Я тады вучыўся на гістфаку ў Горадні, кафедра «Гісторыя славянскіх народаў». Пачынаючы з чацвёртага курса я выконваў пэўныя просьбы сваіх сяброў, працаваў у студэнцкім асяроддзі...

Я аўтаматычна глянуў на дыктафон, дзе высвечваліся лічбы ды ламаны графік гуказапісу. Запіс ішоў. Багдан, злавіўшы мой позірк, пасміхнуўся і працягваў.

— ...я задаваў выкладчыкам нязручныя палітычныя пытанні на парах, цікавіўся, ці гатовыя студэнты да акцыяў пратэсту ў выпадку падвышэння аплаты, прамацваў, як ставяцца да апазіцыйных палітыкаў — акурат выбары былі на носе. Сярод іншага — я спрабаваў трапіць у розныя кампаніі, шукаў інтэлектуалаў...

Багдан зноў зацягнуўся і паглядзеў мне ў вочы.

— Ведаеш, ты хіба не пра гэта хацеў пагутарыць. Але я хачу нешта распавесці. Наўрад ці на тваім сайце гэта паставяць, але тым не менш. Ок?

— Без праблем.

— Дык вось. Я працаваў з рознымі кампаніямі інтэлектуалаў. Асабіста мне было цікава з тымі, хто чытаў Хайдэгера і Генона, на худы канец Дугіна. Майго ...сябра, на жаль, цікавілі панылыя адэпты Сагановіча і Ластоўскага... Я, зрэшты, заўжды стараюся рабіць тое, што цікава мне. Ты ж таксама задаеш тыя пытанні, якія цябе цікавяць, каб атрымалася добрае інтэрв'ю. Інакш выйдзе прапаганда, штампы, як найчасцей і бывае на вашых сайтах.

Цікава, што ён добра размаўляў па-беларуску як для анархіста ці нацыяналанархіста, якім я яго папярэдне лічыў.

— Карацей, аднойчы мяне запрасілі ў дзіўнае месца. Кватэра ў старой камяніцы, акурат на колішнім гарадскім вале — адна з самых высокіх кропак горада. Першы паверх, ведаеш, каваныя парэнчы, шахаўніца з белай і чырвонай пліткі ў пад'ездзе. Кватэра належала нейкай старой, з яе здаваўся толькі адзін пакой, які нагадваў калідор — вельмі выцягнуты. Старую кватэру, мабыць, некалі парэзалі, так і атрымалася гэтая «кішка» ад увахода да акна. Сцены былі застаўленыя кнігамі. Там былі сотні, тысячы кніг. Самаробныя паліцы прагіналіся пад імі, недзе кніжкі стаялі адна на адной, утвараючы вежы да столі. Верхняга святла не ўключалі, гарэла заўжды толькі лямпа на пісьмовым стале пад акном. Стол быў увесь завалены нейкімі паперамі, здымкамі, кавалкамі крэменя ці акамянеласцямі... У гэтай келлі ці бібліятэцы, не ведаю, як назваць, збіраліся 3—4 чалавекі, адзін з якіх і запрасіў мяне.

Галоўная тэма іх размоваў — улада, якая мае прыйсці. Не, там не ішлося пра апазіцыйных палітыкаў, якія ў мяне заўжды выклікалі ўсмешку. Антыпаты да дзейнага прэзідэнта таксама не выказвалі. Тое, што мелася прыйсці, на іх думку, павінна было змяніць усе сферы жыцця ва Усходняй Еўропе: палітыку, эканоміку, сацыяльную сферу. Новы лад, новы парадак, сацыял-алігархія. Гэта, дарэчы, іх тэрмін, нідзе больш не сустракаў.

Мадэратарам размоваў быў чалавек без узросту, ну, можа, год сарака. Чорны такі, смуглявы, нос кірпаты. У яго была праблема з нагамі — цяжка хадзіў ці то кульгаў, можа, таму сядзеў заўжды ў цемры, пад кніжнымі вежамі, а новазапрошаны госць — каля лямпы, за сталом. Гэты чалавек, Нестар, так яго называлі, быў такім сабе гуру. Ён ведаў усё, верыш? Каралеўскія дынастыі, даты ўсіх перамогаў Фрыдрыха Прускага, падвіды бунчукоў ды барабанаў у турэцкім войску, гэта ўражвала...

Размова ішла зусім не паводле плану, таму патрэбная была нейкая мадэрацыя з майго боку.

— Дык а што такое сацыялалігархія?

— А, ну так. Гэта лад, згодна з якім большасць нашых сугр631мадзянаў мае быць знішчана, ператворана ў рабоў ці памочнікаў у гета. Улада належыць невялікай колькасці ідэйных моцных і салідарных індывідаў — алігархаў. Яны кіруюць супольнасцю, знаходзяцца на вяршыні піраміды. Гэта мудрыя аскеты ў чорных фрэнчах, якім нічога не трэба ад жыцця, акрамя ўлады, падтрымкі і распаўсюду сваёй сістэмы. Іх свет — сістэма, уся рэшта — антысістэма, якая мае быць вынішчана і пераваблена на іншы лад.

— Ну, і што тут арыгінальнага? Таталітарная мадэль на манер Оруэла, — я крыху расслабіўся і нават глытнуў астылай кавы.

— Не зусім. Гэта квінтэсэнцыя, стрыжань. Тое, што ёсць супольнага ў камунізме з нацызмам, у антыўтопіях XX стагоддзя. Дарэчы, пра Оруэла. Ён быў часткай «Вялікая Трыяды»...

— Чаго?

— «Вялікая Трыяда» — гэта Оруэл, Замяцін і Хакслі, аўтары, якія стварылі найцікавейшыя антыўтопіі ў мастацкай форме. Калі дадаць Стругацкіх і Лондана, «Жалезная пята», атрымаецца «Пяцікніжжа» — пяць кніг, якія чытаў кожны ўдзельнік гэтых... дыскусіяў. Хоць ніякай дыскусіі там не было. Было толькі меркаванне гэтага Нестара.

— Угу, — я паглядзеў у акно, за якім прайшоў нехта ў «бундэсе» ды амерыканскіх берцах, хіба атошнік. Узгадка пісьменнікаўфантастаў мяне троху «дабіла».

— ...Ты не ўяўляеш, наколькі ў гэтай канцэпцыі ўсё было распрацавана. Людзі падзяляюцца на некалькі катэгорыяў. Вышэйшыя, сярэднія і зброд. Зброд мае шмат падтыпаў, напрыклад, «прадажнікі»: кар'ерысты, айцішнікі, пасяпаховыя людзі, пазбаўленыя ідэі. Ёсць «атавісты» — людзі з традыцыйнай свядомасцю, сям'я-дом-машына, атавізмы мінулага. Вышэйшыя — інтэлектуалы, вышэйшыяідэйныя — інтэлектуалы, якія трымаюцца канцэпцыі сацыялалігархіі...

— Гэта была нейкая секта?

— Ды не, яны ж не пакланяліся нікому. Хутчэй, нейкі гурток або таварыства. Але са сваёй вычварнай ідэалогіяй. Разумееш, згодна з ёй, — Багдан паказаў шыхт белых зубоў, — людзі без ідэі нічога не вартыя, іх трэба саджаць у гета. Дарэчы, гета — зручна ствараць у мікраранёнах: у шматпавярховіках...

— ...І доўга ты туды хадзіў?

— Я ...далажыў пра ўсё. Мне падзякавалі, але праз два тыдні параілі больш туды не лезці, а займацца ўладальнікамі значкаў «За НяклясVа!» ды зборшчыкамі подпісаў...

— І ты не хадзіў больш?

— Схадзіў. Яшчэ раз, — Багданаў твар пасур'ёзнеў, — там ужо не было нікога. Дзверы кватэры адчыніла старая. Сказала, што пакой зноў здаецца. Прапаноўвала ўзяць па добрай цане, пакуль аб'ява не трапіла ў газеты... Мой знаёмы па гістфаку, які мяне туды запрасіў упершыню, таксама знік. На факультэце я яго больш не бачыў.

— Ну, цікава. І ўсё? — я ўжо быў гатовы прасіць у чарнявай афіцыянткі рахунак.

— Амаль. Паўгода таму на СТВ я выпадкова ўбачыў сюжэт, дзе малады хлопец у пінжаку з зачосам набок даваў інтэрв'ю з нагоды выбараў у Польшчы, распавядаў пра групоўкі і палітычныя колы там — праеўрапейскія і праамерыканскія. Пра небяспеку рэваншу польскіх правых, пасоўвання мяжы на стан 1939 года... У такім духу. Падпісаны быў як «политолог, центр «Гиперборея». Гэта быў ён.

— Нестар гэты?..

— Не-е, той, з гістфака. Гурэвіч прозвішча. Я пагугліў крыху, аказалася, ён ужо паспеў скончыць Акадэмію кіравання пры прэзідэнце, удзельнік еўразійскіх форумаў, аналітык, стваральнік цэнтра«Гіпербарэя».

— О, цікава! — я ўсміхнуўся, але Багдан заставаўся сур'ёзным.

— Тады я канчаткова прыняў рашэнне з'ехаць.

— А... чаму?

— Што «чаму»? Значыць, усе пра ўсё ведалі. Усе гэтыя дзівакі, «гарадскія сумасшэдшыя», якія абчыталіся навуковай фантастыкі, Троцкага ды Шпенглера, яны былі пад кантролем. І іх пачалі даставаць з далёкай шуфляды, дзе яны чакалі свайго часу. Так, я нагугліў яшчэ аднаго, чыё прозвішча было мне вядома. Ёсць інтэрв'ю ў інтэрнэце, ён семінарыст і арганізатар праваслаўных спартовых клубаў для моладзі на Берасцейшчыне.

— А Нестара нагугліў?

— Не. Я не ведаю нават прозвішча.

— То бок Вы... ты баішся вяртацца ў Беларусь?

— Давай не будзем пра страх, — Бодзя дастаў яшчэ цыгарэту. — Зразумей. Як гісторык табе скажу. Перад кожным пераломам і паўстаннем новага таталітарнага рэжыму недзе ў падваротнях ды закутках бібліятэк корпаюцца такія дзівакі кампаніі. І калі іх нешта ці нехта кліча — яны выпаўзаюць з кніжных пячораў, каб расказаць усяму свету, хто вінаваты і як жыць. Як у фантаста Лаўкрафта. «Кліч Ктулху», чытаў? Тысячагоддзямі пад вадой жыла пачвара, якая праз сны заклікала розных людзей да практыкі свайго культу.І гэтым дзівакам «сніцца» ў іх кніжных мроях панаванне над думкай, аўтарытэт, новы свет з сабой на чале.

Я ўдумліва пахітаў галавой па нормах журналісцкай этыкі.

* * *

З Багданам я сустракаўся яшчэ разы два. Нічога прынцыпова новага ён не сказаў. Пагутарылі, пазгадвалі Менск, Горадню... У Львове я пачаў бываць рэгулярна. А пасля Багдан знік. Нібы расшчапіўся на малекулы. Яго ныя ўкраінскія кянты толькі разводзілі рукамі.

З часу нашай першай сустрэчы мінуў год. Цэнтр «Гіпербарэя» стаў мільгаць па ТВ ледзьве не кожныя выходныя. Пра казацкі летнікі ды «сетку сепаратыстаў», якая нібы выбудоўваецца вакол прыходаў праваслаўнай царквы, не пісаў толькі лянівы. Я шмат разоў згадваў Багдана і яго вусцішныя аповеды: пра гета ў шматпавярховіках ды алігархаў у чорных фрэнчах...

Праглядаючы навіны, я мімаволі шукаю «Нестара». Такім, якім мне апісаў Багдан. Кірпаты, смуглявы, кульгавы... Калі ў «Контурах» або «Панараме» з'явіцца гэты эксперт? Калі яго выкарыстаюць? Або наадварот, гэта ён — выкарыстоўвае?..

Я гляджу ў акно, на заснежаны дзіцячы садок з анямелымі арэлямі, чорнымі венікамі кустоўя, крытымі шыферам пляцоўкамі з сілікатнай цэглы з наіўнымі кветкамі на сценах... Праз гадзіну зусім сцямнее і па-над усім гэтым, нібы змрочнае сонца, узыдзе Вялікі Воз або Вялікая Мядзведзіца, Гіпербарэя, як яе называлі грэкі.

Трэба брацца за працу, каб зноў не класціся а трэцяй ночы... Дакумент на працоўным стале адчынены яшчэ з абеду, але я не ведаю, як яго скончыць.

УКГБ РБ по г.Гродно и Гродненской области

Докладная записка

О мерах по поиску агента «Зодиак»

В ходе служебной командировки в г. Львов, Украина, мною были предприняты следующие действия для обнаружения агента «Зодиак», который перестал выходить на связь:

1.Поиск через средства мобильной связи.

2.Поиск по временному месту жительства.

3.Опрос знакомых агента «Зодиак» из числа неформальных группировок молодежи.

В результате поисков...

*21.01.2016*


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**XXIII Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш прайшла з 10 да 13 лютага ў выставачным комплексе на праспекце Пераможцаў. На галоўным стэндзе Беларусі, акрамя кніжных навінак, быў заўважаны і яшчэ больш цікавы экспанат. У якасці аздаблення стэнда гледачам дэманстравалі каравай у выглядзе Бібліі Францыска Скарыны з аўтарскай гравюрай.**



**Кацярына Вандар'ева — гонар беларускай жаночай школы бокса муай-тай, шматразовая чэмпіёнка свету і Еўропы, якую за прыгажосць празвалі Барбі. У інстаграме трэнера клуба «Патрыёт» Мікалая Тачыліна з'явілася фота са збораў каманды ў Тайландзе. Байцы на ім проста абедаюць, а на Вандар'евай — саколка з нацыянальным беларускім гербам «Пагоня».**





**У «Белавія» з'явілася першая дзяўчына-пілот. Ёю стала 28-гадовая Святлана Яроменка. Да гэтага дзяўчына працавала ў авіякампаніях «Пскоўавія» і «Трансаэра». Кіравала пасажырскімі самалётамі Ан-24/Ан-26, а пазней і Boeing-737NG. Мілавідная выпускніца Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта грамадзянскай авіяцыі нарадзілася ў сям'і лётчыкаў у Якуціі.**


svaboda.org (RFE/RL)

**Жодзінскае прадпрыемства БелАЗ прадало да Дня святога Валянціна 25 падарункавых сертыфікатаў на 10-хвілінную паездку на 130-тонным самазвале. Замест святочных строяў тут выдавалі рабочыя камізэлькі, а замест кветак — цацачныя мадэлі «БелАЗаў». Каб трапіць на на самазвал вышынёй 6 метраў, закаханым трэ' было праслухаць тэхніку бяспекі і надзець спецвопратку. Каштавала такое задавальненне 655 тысяч.**


ІНА КАРДАШ

**У Мінску прэзентавалі работы ўкраінскіх і беларускіх мастакоў з зоны АТА. Выстава праходзіць у будынку пасольства Украіны ў Мінску. Алесь Чаркашын. Карціна ўкраінскага мастака Тараса Носара.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Беларуская нумаралогія: даляр — 22 тысячы, ліміт на пасылкі — 22 еўра, не мяняецца ўлада — 22 гады.

* * *

— Я хацеў бы вярнуць гэта. Я гэтым не карыстаўся.

– Гэта ваш дыплом.

– Ці можна наяўнымі?

* * *

— Ой, Ружачка, я ездзіла ў санаторый і пазнаёмілася з цікавым мужчынкам! У нас з ім такі вельмі шмат супольнага: гастрыт, гіпертанія і плоскаступнёвасць.

* * *

Муж кажа жонцы:

— Нешта трывожна ў мяне на душы.

— Здарылася што?

— Сёння ў ліфце наш сусед пільна чытаў «Дапаможнік ігры на трамбоне».

* * *

Мужык сабраўся скончыць жыццё самагубствам. Стаіць на масце, рыхтуецца скокнуць у раку. Раптам нехта пляскае яго па плячы: «Выбачайце, калі ласка, а кацянят не захопіце?»

* * *

Купіў кнігу «Гэтаму не навучаць у аўташколе», прыйшоў дадому, лёг на канапу, адкрыў тытульны ліст, а там напісана: «Усё аб вазонах»...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Рось, Гродзенская губернія.** Нейкія ашуканцы хадзілі па вёсках ды заказвалі, каб свіней прыганялі да Росі 1 лютага. Сяляне паслухаліся тых ашуканцаў і ў назначаны дзень наехала поўнае мястэчка фурманак з таварам. Чакаюць купцоў, а купцы ў карчме гарэлку п'юць ды кажуць: не пойдзем хутка, няхай мужыкі насы памарозяць, а тады танней аддадуць сваіх свіней. Прыстаў, пабачыўшы, што ўвесь кірмаш — ашуканства, загадаў разагнаць купцоў і ўвесь кірмаш. Было многа наракання, але затое сяляне казалі, што ўжо другі раз не дадуць сябе ашукаць.

**«НН». №7. 1911.**

**Алексіевіч з'язджае ў Швецыю.** Шведскі ПЭН-цэнтр запрасіў аўтарку «Чарнобыльскай малітвы» на два гады ў Гётэборг. «Так, я еду ў Гётэборг. У свеце ёсць гарады-сховы, што даюць прытулак творчым асобам з краінаў-ізгояў, дзе няма ўмоваў для нармальнай творчасці», — кажа пісьменніца. Гэта не эміграцыя, падкрэслівае Алексіевіч, якая 4,5 года правяла ў Італіі і Францыі.

**«НН». №7. 2006.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**
© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 15.02.2016.
Замова №398.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16007